— Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
29
САКАВІКА
1991 г.
№ 13 (3579)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)

## ЧЫТАЙЦЕ

### МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ?



На II з'ездзе БНФ «Адраджэнне»

СТАРОНКІ 2—3.

### СКРЫНЯ

**Лідзія АРАБЕЙ: «Мы смяёмся цяпер з мінулага. Смяёмся з Хрушчова, з Брэжнева. А пасмяяцца з нас, сённяшніх, зноў пакідаем наступным пакаленням!»**

СТАРОНКА 4.

### СЛАЎГАРАДСКІ ПРЭЦЭДЭНТ,

**або Ці правільна зразумеў курс на галоснасць рэдактар раённай газеты**

СТАРОНКІ 5, 12.

### «СЛАВЕНСКІЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ»

**Знаёмцеся: удзельнікі фестывалю**



СТАРОНКІ 10—11.

### «ХТО ПАДУМАЕ ПРА БЕЛАРУСАЎ?»

**Сяргей ДУБАВЕЦ: «Пры згадках летувіскае незалежнасці ў савецкіх сродках масавай інфармацыі нязменна акцэнтуецца ўвага на пытанні межаў. Маўляў, Летува пойдзе такой, якой прыйшла ў 1940-м — без Віленскага краю... Маўляў, справа тут нават не ў палітычных амбіцыях Масквы, а ў волі таго нелетувіскага насельніцтва, карэннай большасці ва Усходняй Летуве, якая хоча застацца ў СССР.**

**Што ж гэта за насельніцтва, на якое праз мясцовых актывістаў КПСС робіць стаўку імперская Масква!»**

СТАРОНКА 12.

### БАЛІЦЬ, КРЫВАВІЦЬ...

**Барыс САЧАНКА: «Чарнобыльская бяда, іншыя падзеі адцягнулі ўвагу ад выкрыцця сталіншчыны, таго, што рабілася ў нашай краіне, што перажылі людзі, народ у страшныя 30—40-я ды і пазнейшыя гады.**

**Менш і менш застаецца жывых сведак бяспраўя і рэпрэсій, каму мінулае па-сапраўднаму баліць, крывавіць...»**

СТАРОНКІ 14—15.




Р. СІТНІЦА. «Курапаты. Крыж пакут».

# Пад знакам «Пагоні»




Як засведчыў апошні з'езд Саюза мастакоў Беларусі, што адбыўся ў мінулым годзе, нашыя творцы пакуль што няздольныя па прыкладу сваіх калег у рэспубліках Балтыі ўзяць і выйсці ўсёй грамадою з падпарадкавання Маскве. На з'ездзе вызначыўся раскол. Адны стаялі за «Згуртаванне мастакоў Беларусі», другія — за «Союз художников БССР». Менавіта гэтых, другіх, была большасць. Частка тых, хто галасаваў за суверэнітэт, у канцы года аб'ядналіся ў суполку «Пагоня». Сваёй эмблемай мастакі абралі сімвал незалеж-

**(Працяг на стар. 13).**

# Кола Дзён

21 сакавіка наступіла астранамічная вясна: раўнадзенства. Практычны сэнс гэтай планетарнай падзеі заўсёды разумелі і разумеюць лепш за ўсіх сяляне — трэба рыхтавацца да сяўбы. Гараджанам жа сёлета — не да вясны. Яна страшыць красавіцкім павышэннем цэн. Толькі і размоў, што пра кампенсацыю, індэксацыю, інфляцыю і г. д. А тут яшчэ салідныя з выгляду палітыкі палохаюць прывідам грамадзянскай вайны. Тым не менш, жыццё працягваецца. І, як сказаў класік, «пражыць яго трэба...».

**20 САКАВІКА**

**першай афіцыйна зарэгістраванай Мінюстам БССР партыяй, як паведамляецца, стала Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі.**

**21 САКАВІКА**

**Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Рэспублікі Індыі ў СССР Гансалвеш перадаў у Мінску Старшыні СМ БССР Кебічу ўзоры медыкаментаў, дастаўленых днямі на Беларусь. Медыкаменты, а таксама каля ста тон прадуктаў — дар Індыі жыхарам нашай рэспублікі, пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы.**

**22 САКАВІКА**

**апублікавана пастанова Саўміна БССР «Аб рэформе рознічных цэн і сацыяльнай абароне насельніцтва...» З бюджэту рэспублікі на выплаты кампенсацый выдзелена 5,2 мільярда рублёў.**

**Старшыня ВС БССР Дземянцей завяршыў паездку па Беларусі, у ходзе якой сустракаўся з выбаршчыкамі розных рэгіёнаў рэспублікі.**

**23—24 САКАВІКА**

**ў Мінску прайшоў II з'езд Беларускага народнага фронту (БНФ) «Адраджэнне».**

**25 САКАВІКА**

**Кабінет міністраў СССР прыняў пастанову аб забароне мітынгаў, пікетаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый у Маскве да 16-га красавіка г. г. (?). Наступным днём прэм'ер Паўлаў настойліва прапанаваў увесці падобныя абмежаванні і ва ўсіх іншых гарадах краіны. Зразумела, у мэтах стабілізацыі...**

**26 САКАВІКА**

**Вярхоўны Савет СССР пасля доўгага абмеркавання прыняў пастанову, якая абавязвае ўрад уступіць у непасрэдныя перагаворы з шахцёрамі, а гарнякоў — «прыпыніць» забастоўкі на два месяцы. Пакуль.**

**Прэзідэнт СССР Гарбачоў у той жа дзень у вялікім тэлеінтэрв'ю заклікаў суграмадзян строга прытрымлівацца Савецкай Канстытуцыі.**

**У сталіцу Беларусі прыбыў прадстаўнік нямецкай грамадскай арганізацыі «Новы форум», член Берлінскага камітэта «Дзеці Чарнобыля» С. Пфлюкбайль. На сустрэчы з кіраўніцтвам Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля» ў Мінску абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва паміж гэтымі арганізацыямі, планы сумеснай работы.**

**II з'езд Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». Мінск, 23—24 сакавіка.**

# МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ?



— НАША НАЦЫЯ перажывае цяжкі, трывожлівы час, усеагульны духоўны і эканамічны крызіс, які немаведама калі і чым скончыцца. Між тым, адна ісціна свеціцца ўсё болей выразна і катэгарычна. Гэта тое, што ўратавацца як народ і нацыя мы можам толькі ўласнымі сіламі. Ніхто нас не ўратуе, калі мы, нарэшце, не спазнаем маштабы нашай бяды, а таксама і памеры нашай сілы. Так, менавіта сілы, закладзенай у духоўнай і фізічнай аснове нашага этнасу, ва ўсім тым, што нам перадалі ў спадчыну нашы продкі разам з нашай блаславёнай зямлёй.

Нацыя прачынаецца, гэта пэўна. Хоць тое прачынанне вельмі пакутнае, з многімі ўскладненнямі і стратамі, з перадоленнем вялізнага супраціўлення чорнай злой сілы, якая так і не думае саступаць, — гэтымі словамі Васіль Быкаў адкрыў з'езд БНФ і адначасова акрэсліў, бадай, самую важную праблему, якая хвалюе сёння фронтаўцаў. І не толькі іх.

Тысячы, сотні тысяч людзей вагаюцца, зведваюць дыскамфорт у жыцці, прасякнутым няпэўнасцю і бязладдзем. Што дасць ім апірышча? Дакладней, ці здабудуць яны тое апірышча, усвядоміўшы хоць бы, што чалавек нараджаецца для долі лепшай, чым статкаванне ў чэргах?

Мы — выйдзем шчыльнымі радамі?

## З'езд як жанр.

На жаль, я не быў два гады назад на ўстаноўчым з'ездзе БНФ, які праходзіў у Вільні. Як тады жартавалі, «на эміграцыі». Але добра памятаю той час, яго п'янкую атмасферу, калі некаторыя дні былі роўныя гадам, а месяцы дзесяцігоддзям. Грамадства зрушыла з мёртвай кропкі, кроў па ягоных, пачаўшых было зарастаць, крывацёках пабегла шпарчэй, разагрэлася... І хоць цяпер відавочна, што многія нашы ўяўленні былі наіўныя, аналогіі спрошчаныя, ілюзіі марныя, ды здавалася — яшчэ адзін мітынг ці маніфестацыя, яшчэ адно справядлівае патрабаванне, падтрыманае некалькімі дзесяткамі тысяч галасоў, яшчэ адно вольнае слова, адваяванае ў цэнзуры, яшчэ адно «не баюся», сказанае сабе ўчарашняму, — і ўсё пераменіцца. Што і як? Пагадзіцеся, асабліва пра гэта мы не задумваліся, бо проста верылі — да лепшага.

Як мне падалося, многія ўдзельнікі другога з'езда БНФ, і ветэраны руху, і навічкі, хацелі б зноў паспытаць таго эмацыянальнага допінгу, зноў адчуць тое радаснае ўзбуджэнне, нават катарсіс. Разам з тым, форум прайшоў надзіва спакойна, момантамі і ўвогуле прыцішана. Воклічы «Жыве Беларусь!» гучалі не так часта і не так дружна, атрыбутыка калі не адышла на другі план, то заняла належнае месца.

Што было на першым плане? Асэнсаванне здабыткаў і страт, вызначэнне перспектыў руху. Аналіз грамадска-палітычнай сітуацыі. Выпрацоўка стратэгіі і тактыкі дзеянняў. Змены ў праграмных і статутных дакументах. Вось чым займаліся 429 дэлегатаў з'езда ў прысутнасці шматлікіх гасцей, прадстаўнікоў розных палітычных, грамадскіх і рэлігійных арганізацый.

Гэты з'езд БНФ не быў «з'ездам пераможцаў». Я назваў бы яго з'ездам-выпрабаваннем — інтэлектуальных сіл руху, яго палітычных вопыту і волі. Можна сказаць, што гэтае выпрабаванне было вытрымана, асабліва ўлічыўшы, што за час існавання БНФ мала што змянілася ва ўмовах яго працы. Ва ўсялякім разе, яны не сталі больш спрыяльнымі для актывістаў руху.

## Так сказаў Зянон Пазняк...

**— Шмат што перамянілася ў нашай свядомасці, у свядомасці нашага народа і ўсяго грамадства. Утварыўся апазіцыйны рэжыму рух. Набіраюць моц ідэі Адраджэння. Аднак асноўныя, вызначальныя аспекты жыцця Рэспублікі засталіся на ранейшым узроўні і нават пагоршыліся. Мы не дасягнулі незалежнасці і свабоды, у нас не ажыццёўлены галоўныя дэмакратычныя рэформы ў эканоміцы, культуры, палітыцы і праве. У нас па-ранейшаму манаполія КПСС — КПБ і гегемонія камуністычнай бюракратыі.**

□

На жаль, цяперашні Вярхоўны Савет, як і Савет Міністраў і іншыя органы ўлады Рэспублікі знаходзяцца поўнасцю ў руках камуністычнай наменклатуры, якая вызначаецца на Беларусі крамлёўскай артадаксальнасцю, рэліктавым кансерватызмам і варожасцю да беларускай культуры. Перспектывы для цяперашняга Вярхоўнага Савета БССР не відаць. Ва ўмовах камуністычнага рэжыму ён не самастойны. У варунках разгортвання дэмакратыі ён не

# «ЗОРКА НАДЗЕІ— СУВЕРЭНІТЭТ НАЦЫІ...»

## Выступленне Васіля БЫКАВА

Прынята лічыць, што нашае грамадства празмерна палітызаванае. Можа, і так. Але бяда ў тым, што гэтая палітызацыя не перасягае характару бытавой свядомасці, што ўвогуле маніпулюе ім партыя КПСС, якая па-ранейшаму ўсім кіруе. Хіба толькі з некалькі іншымі вынікамі, чым раней. Нядаўні рэферэндум, не зважаючы на яго шмат у чым шулерскі характар, усё ж пацвердзіў пэўны палітычны ўзровень мас. Пераважная большасць народа так і верыць, як ёй убілі ў галаву партыйныя газеты і тэлебачанне, што ў выпадку ажыццяўлення суверэнітэту Беларусі пражыць у ёй будзе нельга, бо ўвесь хлеб і тавары да яе ідуць з іншых рэспублік, а паехаць да радні за межы Беларусі будзе, быццам, гэтак жа трудна, як цяпер выехаць у капіталістычную краіну. І пашпарт патрэбны, і віза, і грошы невядома як абмяняць.

Людзі дагэтуль болей слухаюць таго, хто крычыць гучней, а вядома, што найлепшым голасам заўсёды валодае начальства. Культ начальніка (пана, сакратара, генеральнага дырэктара), які ўбіваўся ў народную свядомасць на працягу стагоддзяў, па-ранейшаму вызначае веру, светапогляд, мараль і ўчынкі сучаснага беларуса. І тут мала што пераламіла ў народнай свядомасці дзейнасць і палітыка нашага БНФ, які, безумоўна, яшчэ не стаў усенародным, нацыянальным рухам. Пакуль што ён уяўляе сабой цяжкія, часам пакутныя, хоць і гераічныя высілкі нацыянальнага авангарду пераважна з ліку нацыянальнай інтэлігенцыі.

Ну, а што ж народ, ягоныя шырокія масы? Што ягоныя класы? Яго старадаўняе апірышча і ўвасабленне — наша гаротнае сялянства?

Здаецца, аднак, у нас не стала сялянства. Калгасны лад за шмат гадоў свайго разбуральнага панавання дарэшты вынішчыў самы шматлюдны народны пласт з ягоным старажытным землеробчым укладам, стабільным бытам, з яго хрысціянскай мараллю. Сялянства выradзілася ў клас сельскагаспадарчых люмпенаў, пазбаўлена і традыцыйнага ўкладу, і людскай маралі. Уся сучасная сельскагаспадарчая вытворчасць грунтуецца на працы вузкага кола сельскагаспадарчых спецыялістаў - механізатараў, якое і нясе галоўны цяжар паратунку ад усесаюзнага голаду і якім кіруе груваcткі паразітычны пласт аграрна-партыйных цівуноў усіх рангаў.

Ну, а рабочы клас, колькасны рост якога ўражвае, як уражваюць і маштабы урбанізацыі нашага калісьці традыцыйна аграрнага краю. Так, рабочы клас расце, ды бяда ў тым, што ён за гады не ў стане вырвацца з д'ябальскага кола матэрыяльнай нэндзы, характэрнай для слабаразвітых краін Афрыкі ці Цэнтральнай Амерыкі. Тая ж частка рабочага класа, якая больш-менш забяспечана і жыве лепш, як правіла, належыць да славутага ВПК, да безлічы яго знакамітых «паштовых скрынак». Гэтыя ангажыраваны, асобным чынам вылучаны і амаль ашчасліўлены тым малым, што ім дае дзяржава. Дарма чакаць ад іх высокай палітычнай свядомасці.

Тады што ж, застаецца інтэлігенцыя?

Так, інтэлігенцыя. Да яе заўжды скіраваны вялікія спадзяванні народа, яна шмат можа. Але толькі пры ўмове высокай ступені яе палітычнай і — што цяпер важна, — нацыянальнай свядомасці. Калі гэтая інтэлігенцыя прасякнута дэмакратычнымі клопатамі часу і адчувае свой абавязак перад народам, да якога належыць. На жаль, тое наўрад ці можна сказаць пра нашу беларускую інтэлігенцыю. Нашая інтэлігенцыя, вясковая і гарадская, знаходзіцца яшчэ на той ступені духоўнага развіцця, калі ўласныя цэхавыя ці карпаратыўныя інтарэсы для яе нязмерна даражэй за інтарэсы агульнанацыянальныя. І гэта зразумела, бо наша творчая інтэлігенцыя бывае ад юнацтва да старасці заклапочана ўсё тым жа: кватэрай, здабываннем рубля, іншых сродкаў існавання. Акадэмічную ці універсітэцкую інтэлігенцыю не назавеш беднай, незабяспечанай, але таксама надзеі на яе невялікія. У той час, калі ў краінах Усходняй Еўропы, у Балтыі, на Украіне і ў Закаўказзі тамашнія навукоўцы першыя сталі ў авангардзе перабудовы і нацыянальнага адраджэння, нашыя толькі і намагліся, што на больш-менш прынцыповую пазіцыю ў адносінах да чарнобыльскай катастрофы. На іншае ў іх не хапіла пораху. Я ўжо не кажу пра спецыялістаў сацыяльных ці гуманітарных навук, сучасны імідж якіх прадстаўлены паслядоўнікамі Абэцэдарскага-Ігнаценкі, і светапогляд якіх не спяшаецца вызваліцца ад бальшавіцкага вар'яцтва, што клапатліва перадаецца ў іх з пакалення ў пакаленне. Мабыць, тое ж адносіцца і да вучоных прыродазнаўчых і

здольны да рэфарматарскай дзейнасці і яго прыйдзецца распускаць. Народны фронт павінен быць падрыхтаваны да дэмакратычнага развіцця падзей, памятаючы статутныя палажэнні дакументаў Беларускай Народнай Рэспублікі аб скліканні Устаноўчага Сойма і правядзенні ўсеагульных дэмакратычных выбараў у вярхоўны орган улады рэспублікі.

□

**Чаму Беларускі народны фронт за больш чым два гады існавання не стаў усеагульным масавым народным рухам, не дасягнуў такіх поспехаў, як, скажам, народныя франты ў Прыбалтыцы?**

**У Беларускай рэспубліцы на сённяшні дзень ніякі грамадскі рух яшчэ не можа стаць масавым. Мы назіраем толькі масавую паслухмянасць Маскве і начальству. Гэта тлумачыцца амаль поўным знішчэннем грамадзянскай супольнасці ў рэспубліцы і нізкім узроўнем нацыянальнай свядомасці насельніцтва. Такі стан узнік з-за антынароднай палітыкі камуністычных уладаў на Беларусі, накіраванай на працягу доўгіх дзесяткаў гадоў на вынішчэнне беларускай культуры, мовы, гісторыі, рэлігіі, традыцый, лепшых прадстаўнікоў нацыі, на вынарадаванне і русіфікацыю людзей. Метадычнае, мэтанакіраванае разбурэнне беларускай нацыянальнай культуры, мовы і гістарычнай памяці прывяло да страты ў грамадстве агульнанародных інтарэсаў, да распаду духоўных ідэалаў, да абніжэння нацыянальнай свядомасці, да знікнення адзінства і народнай салідарнасці. У выніку нацыя губляе духоўныя сувязі, народ ператвараецца ў раскансалідаванае насельніцтва, аб'яднанае толькі сацыяльнай экзістэнцыяй і нявольніцтвам. Такое насельніцтва няздольнае на калектыўныя дзеянні, на выжыванне і развіццё ў перыяды сацыяльных навальніц, экалагічных і грамадскіх катастроф. Што нам яскрава засведчылі перабудова, Чарнобыль, нядаўні гарбачоўскі рэферэндум і іншыя падзеі.**

**У грамадстве нацыянальнай, культурнай аморфнасці і сацыяльных страсцей няма ідэй, якія маглі б усіх аб'яднаць. Вось чаму Беларускі народны фронт называецца «Адраджэнне». Пакуль не будзе адроджана здаровая жыццёвая аснова, што аб'ядноўвае людзей у культурны народ, кансалідацыя грамадства немагчымая. Без культурна-нацыянальнай кансалідацыі народа недасягальная свабода. А без свабоды нядзейсныя ніякія эканамічныя рэформы, не развіваецца творчасць. Змагацца ж за свабоду і ствараць можа толькі свядомы народ.**

□

Калі член партыі падтрымлівае прынцыпы, мэты і задачы БНФ «Адраджэнне», навошта пазбаўляць яго магчымасці ўдзельнічаць у руху? Гэта неразумна. Бо калі камуніст прыходзіць у фронт, значыць, ён ужо не згодны з таталітарызмам. Наступным крокам можа стаць выхад з партыі. Трэба даць магчымасць звычайным людзям зрабіць выбар і пакінуць КПСС, а не ствараць сабе ворагаў там, дзе могуць быць сябры.

□

**Цяпер няма такога чалавека на Беларусі, які б нічога не чуў пра БНФ. Уяўленні пра Народны фронт і адносіны да яго розныя. Але кожны ведае, што БНФ — гэта апазіцыя існуючаму рэжыму, што БНФ — апазіцыя КПСС. Гэта вельмі істотна, бо калі падняты сцяг, людзі вызначаюцца.**

□

У нашага дэмакратычнага руху ёсць усе падставы аптымістычна глядзець у будучыню. Паглядзім на нашу Беларусь. У нас цудоўная прыўкрасная краіна, працавіты добры народ. Мы маем рукі і розум, развітую навуку і прамысловасць, навуковыя кадры і спецыялістаў, маем ворныя землі і пэўныя прыродныя рэсурсы. У нас ёсць усё, каб жыць добра. Няма толькі свабоды і незалежнасці.

Дасягненне свабоды і суверэнітэту Беларусі — важнейшая задача нашага пакалення... Таму суверэнітэт у нашым змаганні павінен быць першасным, антыкамунізм — другасным.

□

**Дагэтуль асноўную ўвагу мы звярталі на палітыку. Цяпер, калі грамадства паступова скочваецца да кансерватыўнай стагнацыі, да стану прагрэсіруючай энтрапіі, Народны фронт павінен звярнуць увагу на ўпарадкаванне і ўмацаванне сваіх структураў і асабліва на асветніцтва, інфармацыю і друк. Праца над адраджэннем культуры і нацыянальнай свядомасці людзей павінна весціся метадычна і самым сур'ёзным чынам. Без культурнага, свядомага чалавека ніякі эканамічны ўздым немагчымы.**

□

Кожны сябра Народнага фронту, кожны сябра партыі, якая лічыць сябе дэмакратычнай, павінен імкнуцца ведаць і размаўляць на беларускай мове. Інакш што, якое грамадства, якія каштоўнасці мы збіраемся адраджаць?

□

**Мне думаецца, што Беларускі народны фронт дастаткова пасталеў за два гады цяжкага змагання, пасталеў настолькі, каб узяць будучыню адраджэння Беларусі на свае плечы (іншых няма), узяць на сябе і мужна пайсці за пуцяводнаю зоркай свабоды, што свеціць нам у зеніце, заклікаючы да веры ў выбраны шлях.**

(З палітычнага даклада старшыні Сойма БНФ).

Зянон Пазняк на з'ездзе зноў быў абраны лідэрам руху. Разам з Юрасём Хадыкам, які таксама быў перавыбраны, намеснікамі старшыні Сойма БНФ «Адраджэнне» сталі народныя дэпутаты БССР Валянцін Голубеў і Уладзімір Заблоцкі.

# Сіла і слабасць руху. Што заўтра?

У свой час адна з прапагандысцкіх кампаній супраць БНФ ішла пад лозунгам «а што, уласна, яны зрабілі?». На з'ездзе дзейнасць фронту была ўважліва прааналізавана, здабыткі старанна пералічаны.

Сярод таго, што адбылося пад прамым ці апасродкаваным уплывам БНФ, на першы план вылучаліся якасныя змены як у грамадска-палітычных працэсах, так і ў свядомасці людзей, іх зварот да нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцей. Неаспрэчны вынік дзейнасці БНФ — разбурэнне сцяны маўчання, сакрэтнасці і нават непрыхаванай хлусні, пабудаванай вакол чарнобыльскай зоны, канкрэтныя захады па змякчэнні вынікаў катастрофы. Значны палітычны вопыт набыў рух пад час выбарчай кампаніі 1990 года, у Вярхоўным Савеце рэспублікі ўтварылася фракцыя БНФ, якая стала асновай канструктыўнай парламенцкай апазіцыі. Дзейнасць фронту стымулявала пачатак фарміравання грамадзянскай супольнасці, у прыватнасці, стварэнне сапраўднай шматпартыйнасці ў рэспубліцы. Пашыраліся ідэі свабоды і незалежнасці Беларусі.

Увогуле, дэлегаты з'езда пагадзіліся з тым, што праграмныя мэты і задачы БНФ, сфармуляваныя два гады назад, аказаліся правільнымі. Што тычыцца непасрэднай дзейнасці па іх ажыццяўленню, яе эфектыўнасці, то тут панавалі значна больш асцярожныя ацэнкі. У сітуацыі, калі сышла хваля мітынговай эйфарыі, а спадзяванні на пераможнае шэсце дэмакратыі і радыкальных рэформ не апраўдаліся, непазбежна з'яўляецца апатыя і скепсіс. Той, хто мае «кароткае дыханне», не вытрымлівае стаерскай дыстанцыі. Адсутнасць у БНФ дастаткова шырокай сацыяльнай базы, хваробы росту, звязаныя з набыццём актывістамі неабходнага палітычнага вопыту, структурная аморфнасць руху, рэзкая актывізацыя яго галоўнага апанента ці, правільней сказаць, палітычнага праціўніка — кампартыі прывялі да таго, што не ўдалося ажыццявіць многае з задуманага.

І натуральна, што з'езд адразу прыняў да разгляду праект новага Статута БНФ (яго прадставіў Віктар Івашкевіч). У дыскусіі, якая разгарнулася па гэтым пытанні, перамагло ўсведамленне неабходнасці больш жорсткай структурыраванасці фронту. БНФ і надалей застаецца масавым і адкрытым грамадска-палітычным рухам, але ўводзіць фіксаванае членства з афармленнем уліковых картак, выдачай асабістых пасведчанняў і абавязковай платай складак.

Новы статут, прыняты з'ездам, замацоўвае таксама іншы парадак фарміравання кіруючых органаў фронту, у прыватнасці, яго Сойма. У ім выдзяляецца пяцідзесяціпрацэнтная адкрытая квота для прадстаўнікоў тэрыторый і дэлегаваных прадстаўнікоў тых партый і грамадскіх арганізацый, якія захочуць выступаць разам з БНФ. Зразумела, што партыі, якія ўвойдуць у фронт, застаюцца суверэннымі, незалежнымі і вольнымі ў сваіх дзеяннях. Але БНФ у такім разе можа набыць новую якасць, з канфедэрацыі дэмакратычна настроеных людзей пераўтварыцца яшчэ і ў канфедэрацыю партый.

Змены, якія адбыліся апошнім часам у грамадска-палітычным і нацыянальна-культурным жыцці Беларусі, вылучылі на парадак дня і неабходнасць карэкцыі праграмы БНФ. Так, выступаючы на з'ездзе, Вінцук




Вячорка адзначыў, што большасць праграмных палажэнняў, асабліва канкрэтнага характару, захоўваюць моц, але патрабуецца ўдакладненне мэтаў і задач руху, шляхоў іх дасягнення. Гэта і было зроблена ў праграмнай заяве з назвай, якая гаворыць сама за сябе: «Свабода — Незалежнасць — Адраджэнне».

Вызначаючы «беларускую перспектыву» як стварэнне незалежнай дэмакратычнай дзяржавы, праграмная заява БНФ абгрунтоўвае неабходнасць і змест пераходнага перыяду, у часе якога павінен адбыцца дэмантаж таталітарнай структуры. Гэта мяркуецца зрабіць праз выкананне Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР, «дэкамунізацыю» грамадства, рэформу сістэмы ўлады, утварэнне грамадзянскай супольнасці, пераход да рынкавых дачыненняў, адраджэнне культуры і нацыянальнай свядомасці і шэраг іншых захадаў.

«Незалежнасць Беларусі, праўная беларуская дзяржава, беларускае нацыянальнае адраджэнне, — адзначаецца ў заяве, — прыступкі да адраджэння найвялікшае каштоўнасці — ЧАЛАВЕКА, асобы, яе духоўнасці, годнасці й таленту. Галоўнае багацце нашае Бацькаўшчыны — яе народ. Жыве народ — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ».

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**



асабліва тэхнічных навук. У чым прычыны такой атрафіі да болю і хваробаў сучаснасці? Ці не ў характары іх прафесійнай дзейнасці, як вядома, таксама не ў малой меры звязанай з тым жа ВПК, навуковым забеспячэннем антычалавечых ядзерных праграм, імперскашпіёнскім панаваннем у Космасе? Менавіта гэтая дзейнасць выпрацавала ў іх асяроддзі пэўны светапогляд і мараль, мабыць, болей чым на марксізме, заснаванай на ідэалогіі знакамітай «Памяці», лідэры якой гэтак зачасцілі ў беларускую Акадэмію навук.

Я ўжо гаварыў некалі пра нашу моладзь, можа, самую дэпалітызаваную і дэнацыяналізаваную ў свеце, якой камсамол за шмат год прышчапіў устойлівую агіду як да нацыянальнай культуры, так і да ўсякай палітыкі

Тым больш гонар тым нашым грамадзянам з ліку сялян, рабочых, творчай і навуковай інтэлігенцыі, якія па закліку сваіх, не дарэшты счарсцвелых сэрцаў успомнілі, што, апроч абавязкаў камуніста, сямейніка, дзеяча культуры ці навукі, ёсць яшчэ высокі абавязак перад Богам і Справядлівасцю. І здалі свае партбілеты, і ахвяравалі кар'ерай, і паўсталі перад вялікай страхавітай няпоўнасцю дзеля барацьбы за народ і рэспубліку. Для іх суверэнітэт нацыі не пустая папяровая дэкларацыя—яна для іх зорка надзеі. Бо сусветны вопыт, бадай, кожнай нацыі красамоўна сведчыць, што наладзіць жыццё па справядлівасці магчыма толькі ў межах цеснай суполкі — сям'і, роду, нацыі, згуртаваных на адзінстве веры, мовы, культуры, узроўню цывілізаванасці. Няўклюдныя, стракатыя імперыі амаль усе рухнулі, ды і наша дажывае апошнія дні. І справа тут не ў злосных намерах «так званых дэмакратаў», нефармалаў ці нацыяналістаў. Мабыць, і не ўся прычына ў бязглуздасці сацыялізму як навуковай дактрыны ці ў зламыснай палітыцы Цэнтра. Справа ў рэальным жыцці, у дыялектыцы гістарычнага развіцця. Апантаная сацыяльнасць XIX стагоддзя, якая ў большасці выпадкаў выявіла сваю утапічнасць, усё болей саступае месца нацыянальнай ідэі. Заходняя Еўропа гэтую ідэю ажыццявіла даўно, Усходняя прыступае да яе ажыццяўлення. Нашая ж імперыя, бы сляпы плота, прадаўжае трымацца славутага сацыялістычнага выбару. Цяпер сапраўды пытанне стаіць так: ці ўратавацца паасобку, ці праваліцца ў тар-тарары ўсім разам. Зрабіць гэта ў маштабах імперыі, здаецца, магчыма з найбольшым поспехам.

Наш БНФ, не грэбуючы ніводнай рысай сучаснага еўрапейскага дэмакратызму, зусім не супраць жыццёвых інтарэсаў іншых нацый ці нацыянальных меншасцяў. Але ён—за сябе, за Беларусь, за вольнае развіццё яе народа ў сям'і цывілізаваных народаў свету. Мы павінны выразна сабе ўсвядоміць, што гісторыя дала нам апошні шанц, і ажыццявіць яго суджана цяперашнім пакаленням. Ці мы яго нарэшце ажыццёвім, ці нацыя развітаецца з тою ідэяй навек, каб самой без следу знікнуць з твару зямлі.

Гэта заўжды не проста, цяпер жа гэта нават вельмі складана. Апроч чыста ўнутраных прычын, прыйдзецца пераадолець шалёнае супраціўленне Цэнтра, учэпістую, даволі распаўсюджаную імперскую свядомасць, папулярным жупелам якой з'яўляецца пагроза грамадзянскай вайны. Але ў таталітарнай дзяржаве, якой несумненна, ніколі не переставала быць наша, нішто не адбываецца самохаць, стыхійна, адвольна. Таму ніякая грамадзянская вайна ў нас немагчыма, калі яе не арганізуе Цэнтр. Ва ўмовах Беларусі гэтая вайна можа прыняць форму ўзброенай барацьбы знешняй сілы супраць дзесяцімільённага народа. Дарэчы, генеральная рэпетыцыя таго ўжо адбылася ў памятны дзень 30 кастрычніка 1988 года.

Чалавецтва і Беларусь маюць вялікую надзею на БНФ, яго выпрабаванае кіраўніцтва. Я кажу гэта, зусім не маючы намеру прынізіць значэнне іншых дэмакратычных партый. Як кажуць, дай ім Божа. Але нельга не прадбачыць тых цяжкасцяў, што неўзабаве паўстануць перад імі, як перад партыямі парламенцкага тыпу. Менавіта аб тым красамоўна сведчыць вопыт сучаснага беларускага парламенту. Справа ў тым, што іхні палітычны апанент — КПБ прытрымліваецца зусім іншых, ніякім кодэксам не прадугледжаных правіл гульні, супраць якіх звыклыя метады дэмакратычнага парламентарызму бяссільныя. У нас стварыўся пэўны парламенцкі парадокс, калі камуністычная парламенцкая большасць па сутнасці выражае інтарэсы меншасці — партыйнай бюракратыі, а меншасць—інтарэсы большасці, па сутнасці інтарэсы народа. Менавіта гэты парадокс і заводзіць у тупік усю ідэю беларускага парламентарызму.

Таму, вядома, дай Бог поспеху іншым дэмакратычным партыям, але БНФ ужо штосьці Бог даў. Ім ужо набыты пэўны і немалы палітычны капітал, тое прызнаюць ягоныя сябры, таксама як і ягоныя ворагі. І ў тым, вядома, найбольшая заслуга кіраўніцтва Фронту, старшыні Сойму Зянона Пазняка ды ягоных бліжэйшых паплечнікаў. Іхнія высілкі, безумоўна, ужо ляглі ў гісторыю Беларусі, незалежна ад таго, як гэтая гісторыя паверне ў хуткім часе і чым скончыцца. Праўда, не ўсім даспадобы нібыта радыкалізм Пазняка, які, можа, і ўласцівы гэтаму, безумоўна, выдатнаму сыну нашага занядбанага народа. Але я сказаў бы, што менавіта ў палітычнай выразнасці — найбольшая вартасць Народнага фронту. У спалучэнні з некаторымі іншымі асабістымі якасцямі Зянона Станіслававіча тое — сведчанне яго грамадзянскай бескампраміснасці, ідэйнай прынцыповасці і патрыятызму. Дай яму Бог захаваць тыя якасці як мага даўжэй, на карысць справядлівасці і Беларусі.

Таму—жыве Беларусь!

**Ніл ГІЛЕВІЧ**



●

Кажаш: годзе, годзе ў вершах публіцыстыкі.
Годзе кіпнем палемічным поўніць словы.
Хай там ладзяць баль газетныя нячысцікі,
А ў паэтаў — час адхлання вечаровы.

Час памарыць, адпачыць, пільней прыглядзіцца
Да зіхоткіх, вечных зор над галавою.
Мо з каўша свайго Вялікая Мядзведзіца
На душу ліне касмічнага спакою,—

І адыдуць, адпадуць усе надзённыя
І трывогі, і турботы, і згрызоты...
Ах, мой братка! Хоць паэты—людзі цёмныя
І далёка не глядзяць за гарызонты,—

А не могуць во сядзець маўкліва-стоена—
Так, як мыш пад памялом, што і не шасне...
Ты даруй ім: гэта ў іх ад продкаў-воінаў
Кроў такая — не мышыная, на шчасце.

## Што ж цяпер?

Пра душу успомнілі, панове!
Што вы хочаце з яе спытаць —
Вамі ж, вамі, душ уладарамі,
Безліч раз цынічна згвалтаванай,
Збэшчанай, растурзанай, знявечанай,
Змучанай, прыбітай, здратаванай,
Між хлуснёй і праўдаю раздвоенай,
А нарэшце і расчвартаванай
На крыжы... О, так, на тым жа самым...
Што ж цяпер вам трэба ад яе,
Што нарэшце ўспомнілі?
Панове!!

## Ці ачнёмся?

Чужое, разбойнае, хамскае
Гвалтуе, дратуе, таўчэ,
А роднае, свойскае, наскае
Бязмоўна ярмо валачэ.

Пачварнае, дзікае, жорсткае
Крычыць, верашчыць і трашчыць,
А добрае, людскае, боскае
Замоўкла і цяжка маўчыць.

Бяздарнае, брыдкае, бруднае
Сквярэцца, дзярэцца, хрыпіць,
А чыстае, светлае, мудрае
Няйначай заснула і спіць.

Дык, можа, ачнёмся, таварышы!
Апомнімся, братцы-сябры!
Ці будзем, аб вольнасці марачы,
Канаць на бацькоўскім двары!

## Палемічнае

Васпан! Здаецца, вы, хоць і не храбра,
Праўдзе служылі ў былыя гады!
Што ж вы мяняеце Бога на д'ябла,
Не прадчуваючы ўласнай бяды!

Д'ябал на тое і д'ябал, што здольны
Думкі заблытаць і крылы звязаць.
Д'яблу паверыўшы, вернік не вольны
Шчырае слова народу сказаць.

Д'ябал падмовіць і вас адракчыся
Ад векавечных народных святынь,
Як адракліся ўжо тысячы тысяч,
Моўчкі змірыўшыся з лёсам пустым.

Што ж прымушае вас гэтак заядла
І безразважліва кідацца ў бой
Не за гаротніка-брата — за д'ябла
З хітрай ухмылкаю, з сытай губой!

Люду сумленнаму жыць на радзіме
Горай і горай. Народ — у бядзе!
Дзе ж вы шукаеце голас праўдзівы!
Брацкую вернасць шукаеце дзе!

Вы — за свабоду! Чыю і якую!
Тую, што здымуць нам з меркі чужой!
Знайце ж: зарана нячысцік святкуе
Верх-перамогу над нашай душой!

Знайце: жывучы народ наш і з пекла
Выйдзе і ўзвысіць свой полымны дух!
Ну, а паколькі душа ў вас аслепла —
Вашых у гэтым не будзе заслуг.

## Зданнё на бацькаўшчыне

З Краснай горкі святой,
Як раней яна звалася,
Я гляджу на лясы,
Што не бачыў даўно:
І на той,
Адкуль сонца заўсёды ўздымалася,
І на той,
За які асядала яно.

Я гляджу —
І аж сэрца шчымліва заходзіцца —
Да таго дарагія і любыя мне
Нашы далі лясныя...
Ах, чую, народзіцца
Зараз песня ў душы —
Весняй хваляй памкне!

Нават вейкі прымружыў
На хвілю якуюсьці —
Як ад чараў...
І раптам, нібыта праз сон,
Страшны голас нялюдскі скрыгеча:
«Любуешся!
Ну, любуйся, любуйся,
Душа з цябе вон!

Пэўна, думаеш:
Вось яна, спадчына вечная!
І ты вечны наследнік яе, валадар.
А мяне —
І ў разлік не бярэш, недарэчына!
Ну, дык ведай:
Не ты тут, а я — гаспадар!

А ў мяне
Ёсць стальныя, масіўныя сківіцы
І ёсць чэрава-прорва,
Якое не ўнясць:
З'ем усё тут, усё!
Не прасі злітасцівіцца —
Схрабашчу ўсе лясы,
Што наўкола стаяць!

І дубровы-гаі,
І бярэзнікі-ельнікі —
Да апошняга дрэўца —
Суздром сцераблю!
Знішчу ўсё,
Каб нашчадкі твае, пераемнікі,
Мёртвай пусткай убачылі
Гэту зямлю!..»

Жах мяне скалануў.
Азіраюся: «Хто гэта!»
«Га-га-га!» —
Рагатнула нябачная здань.
Навакол — ні душы.
Рэха страшнага рогату
З Краснай горкі святой
Доўга коціцца ўдаль.

ЯКІЯ МЫ!

**Лідзія АРАБЕЙ**

# СКРЫНЯ

У адной з перадач «Тэлевізійнай службы навін» паказалі сюжэт: памерла ў вёсцы адзінокая жанчына, і калі прыйшлі яе хаваць, знайшлі ў хаце, у скрыні, дзіця — дзяўчынку гадоў адзінаццаці. Маці хавала яе ад людзей, і дзіця жыло там з дня свайго нараджэння. Ножкі, якімі ніколі не хадзіла дзяўчынка, выраслі скрыўленыя, псіхіка... Што ўжо тут гаварыць пра псіхіку...

Сюжэт не мог не скалануць чалавечае сэрца. Што там была за маці? Хутчэй за ўсё, жанчына ненармальная. Але вось пра што падумалася ў сувязі з гэтым сюжэтам: калі тое дзіця магло хоць нешта разумець, хоць неяк уяўляць сваё існаванне, то, напэўна, уяўляла, што жыццё — гэта вось такая скрыня, у якую час ад часу падаюць есці. І не дзіва — дзіця ніколі не бачыла сонца, снегу, травы, не бачыла дрэва, кветак. Ды і адкуль жа яно магло ведаць, што ўсё гэта існуе на свеце?

Яшчэ адзін сюжэт, таксама з тэлебачання: карэспандэнт бярэ інтэрв'ю ў бабулек, што засталіся ў пакінутай людзьмі вёсцы. Бабулькі тыя — маршчыністыя, бяззубыя, з крывымі пальцамі спрацаваных рук, апранутыя ў палапленыя ватоўкі — вобраз нашай працавітай вясковай забітай старасці. І вось пытаецца карэспандэнт у тых бабулек:

— Ну, як вы тут жывяце?

— А нічога, добра,— адказвае адна.

— Бульба свая, хлеб, бывае, прывозяць, каб яшчэ сахарку,— кажа другая.

— Ага, каб яшчэ сахарку...

— І каб мыла, а так усё добра,— гавораць яны ў гулю мікрафона, якую падсоўвае ім карэспандэнт...

Ці на шмат адрозніваецца існаванне гэтых бабулек ад існавання ў скрыні: калі пра такое жыццё яны могуць сказаць, што яно добрае?

А далей уражанні ўжо не тэлевізійныя, а свае, уласныя.

Памятаю чэргі ў магазінах да вайны, калі маці будзіла мяне гадзін у пяць раніцы і пасылала ў той доўгі хвост чаргі — іначай не купіш таго, што трэба. Памятаю, як сядзела галодная ў школе — не было чаго ўзяць з сабою на перакуску. Памятаю дзіравыя туфлікі, у якія вясною і восенню набіралася поўна вады. І пальцечка зімовае, перашытае з нейкай старызны, у якім холад прабіраў да касцей. Але холаду не дзівілася — на тое ж зіма, мароз. Нават не здагадвалася, што можа быць цёплая апратка, у якой і зімою не холадна. І пры ўсім тым крычала на ўсё горла са шчыраю вераю і захапленнем: «Дзякуй вялікаму Сталіну за наша шчаслівае дзяцінства!»

Потым вайна з усімі яе жахамі... Цяпер, часам, задумваемся — што чакае наша маладое пакаленне, якія выпрабаванні ў іх наперадзе? Хаця і сёння ім не соладка. Але наўрад ці перажывуць яны такія пакуты, якія перажылі мы ў час вайны і пасля яе, а нашыя бацькі і да вайны. Думаю, што цяжкасці, якія ў іх наперадзе, усё ж будуць не такія страшныя, як былі нашы. Хаця...

Калі савецкія салдацікі выгналі нарэшце акупантаў з нашай зямлі і ступілі за мяжу, то ўбачылі, што жыццё можа быць і не такім, да якога мы прызвычаіліся і якое лічылі шчаслівым. Яны ўбачылі прыгожыя дамы, багатае ўбранне, рэчы, пра якія не ведалі нават — як іх ужываць. Нездарма ж бывалі выпадкі, калі жонкі нашых афіцэраў хадзілі ў тэатр у начных кашулях. Не маглі ўявіць сабе, што ў такім харастве ды можна класціся ў ложак. Але чужое багацце не клікала на роздум, яно выклікала толькі злосць. І разбіваліся люстры, піяніна, багаты посуд, вазы ды творы мастацтва. Як некалі ў семнаццатым, калі грамілі панскія маёнткі.

Пасля тых пагромаў пачалі мы будаваць камунізм. Яшчэ Ленін абяцаў, што маладое пакаленне таго часу будзе жыць пры камунізме. З розных трыбун нам гаварылі, што наша эканоміка куды больш эфектыўная, чым капіталістычная, што нашы свабоды куды больш свабодныя, што наша грамадства куды больш шчаслівае, чым тое, што «за бугром».

І мы гэтаму верылі, бо жылі ў скрыні і не ведалі, што там, звонку.

І вось нарэшце разумныя людзі падцялі вечка той скрыні. І бліснула святло, і павеяла свежым ветрам, і ўбачылі мы, што жыццё можа быць не такім, да якога мы прызвычаіліся.

Але вельмі скора аказалася, што да жыцця на святле мы не прызвычаеныя, што мы не ўмеем жыць на волі, што трэба нам вучыцца жыць інакш, чым жылі.

Дзяўчынка, якую выпялі са скрыні і прывезлі ў дзіцячы прытулак, баялася святла, баялася людзей, не ведала, як гуляць з цацкамі. Яна зашывалася ў цёмны кут і дрыжала там ад страху.

Мы, вылезшы са сваёй скрыні, таксама аказаліся непрыстасаванымі да новага жыцця. Усчаліся сваркі, бойкі, адзін казаў, што па шчасце трэба ісці налева, другі кіраваў направа, а тыя, што адчынілі скрыню, не ведалі, каго падтрымаць.

Але досыць эзопавай мовы і аналогій. Усім і так ясна, пра што ідзе гаворка. Даўшы нам дыхнуць свабодаю, даўшы надзею на іншае жыццё, у нас гэта хочуць зноў адабраць. І галоўны камень, у які ўпіраецца наша так званая перабудова,— зноў ідэалогія, догмы — сацыялістычны выбар ці не сацыялістычны. Няўжо нельга пакінуць гэтыя спрэчкі? Дайце волю эканамічнаму працэсу, няхай людзі самі сябе накормяць, а не просяць падачак за мяжой. Дык не толькі сацыялістычны выбар. А што ён даў, той сацыялістычны шлях, да чаго мы прыйшлі? Да той гурбы пісьменнікаў, што стаіць у даўжэзнай чарзе на смярдзючай лесвіцы, каб атрымаць кавалак кілбасы, якой і сабака не хоча есці? Ды яшчэ слухаць кпіны дзяўчатак-прадаўшчыц, бо ў нашым сацыялістычным грамадстве вышэйшы за цябе той, хто гаспадар кілбасы.

А найперш не даюць «у крыўду» сацыялізм людзі, што трымаюць уладу і для якіх не важна, дзе праўда, дзе хлусня, галоўнае, каб не пазбавілі іх месца пад сонцам.

Дажыліся мы да такой фазы сацыялізму, калі ўсё гола — ад паліц у магазінах да караля.

Кажуць, у магазінах нічога няма, бо людзі ўсё купляюць, купляюць, трэба ім ці не трэба, робяць запасы. Што купляюць, то гэта так. Бо ў генах савецкіх людзей жыве страх голаду. Нашы бацькі галадалі ў трыццатыя гады, мы галадалі ў вайну і пасля вайны, і гены галоднага страху перадаліся малодшым пакаленням.

Надрукавалі талоны. Цэлыя прасцірадлы талонаў, каб менш куплялі, каб куплялі столькі, колькі адмервае талон.

Добра, будзем жыць па талонах на прадукты, на шкарпэткі. Але не выдавайце талоны на праўду, не адмервайце нам, колькі яе ўжываць. Бо зноў з газетных палос, з экранаў тэлевізараў паплыла хлусня. Па старым правіле — пісьмо рабочага, пісьмо ветэрана, пажаданні гледачоў. Рабочыя, ветэраны напрамілы Бог просяцца назад у скрыню, распісваюць, як там было добра, спакойна. Дакараюць тых, хто выпусціў людзей на святло.

Мы смяёмся цяпер з мінулага. Смяёмся з Хрушчова, с Брэжнева. А пасмяяцца з нас, сённяшніх, зноў пакідаем наступным пакаленням? Хаця — сёння нам не да смеху. Сёння трэба шукаць ратунку, думаць уласнаю галавою, а не ўспірацца на догмы, якія даўно аджылі. Іначай зноў загоняць у скрыню. І нас, і нашых патомкаў. І тады зноў доўга не выберамся на святло.

# Слаўгарадскі прэцэдэнт

Юрась Залоска

Першы сакратар Слаўгарадскага РК КПБ, старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Генадзь Краўчанка збянтэжыў мяне запытаннем, калі я пераступіў парог яго нумара ў гасцініцы Мінскай ВПШ (цяпер ужо інстытут): «Вы з непартыйнай газеты? Дык навошта вам гэтая справа?!» Прамармытаўшы нешта пра свабоду друку, я, тым не менш, задаў суразмоўніку патрэбныя пытанні... Але, відаць, Г. Краўчанка больш сам прывычны задаваць пытанні, чым адказваць на іх. І ўсё ж такі нервы яго падвялі: заявіўшы, што «ЛіМ» ён не чытае, раптам прыгразіў, што прыйдзе да рэдактара і раскажа аб нейкіх пратаколах, якіх я не глядзеў...

Шаноўны Г. Краўчанка да нашай сустрэчы не ведаў, што спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа» ўжо правёў трохдзённае даследаванне ў Слаўгарадзе і Магілёве, наведаў райкам, рэдакцыю раённай газеты, пабываў у абласной пракуратуры, сустрэўся з уласным карэспандэнтам «Звязды» па Магілёўскай вобласці А. Санчуком і... нават паўдзельнічаў у рэйдзе супрацоўнікаў аддзела барацьбы з раскраданнем сацуласнасці Магілёўскага абласнога УУС па магазінах Слаўгарадскага раёна. Менавіта таму сустрэча з Г. Краўчанкам насіла для мяне пратакольны характар, хаця якраз былі падставы расказаць першаму сакратару пра ягонага падначаленага — загадчыка агульнага аддзела райкама, які не дапусціў мяне да кнігі рэгістраваных дакументаў, парушыўшы права на атрыманне інфармацыі. Відаць, такім чынам хацеў неяк уратаваць аўтарытэт райкама...

**Падзенне аўтарытэту мясцовых кіраўнікоў пачалося ў лістападзе мінулага года, калі чытацкія колы слаўгарадскай раённай газеты «Ленінскае слова», органа РК КПБ і раённага Савета народных дэпутатаў, былі ўзрушаны беспрэцэдэнтным артыкулам «Сорам не дым...» Аўтарам з'яўляўся А. Маліноўскі, які з верасня выконваў абавязкі рэдактара, але яшчэ не быў зацверджаны сесіяй райсавета. Пра што ж напісаў рэдактар?**

**Напярэдадні ўвядзення новых цэн на тавары раскошы і далікатэсы кіруючыя работнікі раёна, ігнаруючы парадак размеркавання тавараў і чэргі выканкамаў, атрымалі патрэбныя рэчы з «чорнага ходу». Ужо знаёмы нам Г. Краўчанка, старшыня выканкама райсавета Л. Бубнаў, другі сакратар РК КПБ П. Садоменка, старшыня райспажыўсаюза В. Прахарэнка і іншыя пасадавыя асобы без чаргі прыдбалі хто дываны, хто мэблю, хто дублёнкі... Пра гэта і напісаў А. Маліноўскі, зрабіўшы адпаведныя высновы наконт партыйнага сумлення «слугаў народа». Прынамсі, ён пісаў пра злоўжыванне службовай пасадай, неэтычныя паводзіны. Для такіх слоў аўтар меў падставы. У тыя дні аддзелам барацьбы з раскраданнем сацуласнасці РАУС былі ўзбуджаны крымінальныя справы ў адносінах да старшыні райспажыўсаюза і загадчыцы аднаго з магазінаў Слаўгарада. У артыкуле прапаноўвалася здыскрэдытаваным асобам напісаць заявы аб пераходзе на іншую работу.**

**8 снежня выйшаў другі артыкул А. Маліноўскага — «...А галоўнага не зразумелі», у якім гаворыцца ўжо пра наступствы першай «антыўладавай» публікацыі. А былі яны палярнымі: з аднаго боку — мноства званкоў і лістоў у падтрымку газеты, паведамленні аб іншых парушэннях гандлю, калектыўныя пісьмы з дзесяткамі подпісаў; з другога боку — крыўды названых асоб. 13 снежня «Ленінскае слова» дае падборку чытацкіх водгукаў на артыкулы рэдактара. Безумоўна, людзі выказалі абурэнне двайной мараллю раённага кіраўніцтва. Работнікі СПТВ-219 (усяго 32 подпісы) прапанавалі закранутым асобам вытлумачыцца, даць адказ на артыкулы. Вось што напісалі педагогі: «Парушэнняў у нашым раёне зашмат, шкада, што няма каму з імі змагацца. Большасць «змагароў» самі пагразлі ў махінацыях, блатах, сувязях. Трымайся, газета і рэдактар. Мы на вашым баку. Прайшлі тыя часы, калі за крытыку можна было набыць вымову...»**

Чытачы памыліліся, бо далейшы ход падзей паказаў, што такія часы не мінулі. Прынамсі, у Слаўгарадскім раёне.

25 снежня падпісчыкі «Ленінскага слова» з кароткай абвесткі «Рашыў Савет» даведаліся, што газету ўжо рэдагуе... новы рэдактар—сакратар РК КПБ па ідэалогіі В. Ігнатава, а што тычыцца абмеркавання на сесіі артыкулаў «Сорам не дым...» і «...А галоўнага не зразумелі», дык «у выступленнях было адзначана, што аўтар дапусціў парушэнне чалавечай этыкі, амбіцыёзнасць. На старонкі газеты вынесена звядзенне асабістых рахункаў. У той час, як недастаткова асвятляліся пытанні палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага жыцця працоўных калектываў раёна... Факты, выкладзеныя ў артыкулах, прадстаўлены амбіцыёзна, з мэтай стварыць напружаную абстаноўку, зганьбіць, скампраметаваць кіраўніцтва раёна».

Так Маліноўскі апынаецца па-за газетай. Хаця сесія за яго звальненне з пасады рэдактара і не галасавала—ў гэтым недагледжанасць старшыні райсавета Г. Краўчанкі. Відаць, менавіта таму, запознена спрабуючы неяк утаіць гэты юрыдычны хіб, работнікі РК КПБ не дапусцілі мяне да кнігі дакументацыі. У ёй павінна быць адзнака аб выдачы А. Маліноўскаму пасадавага прадстаўлення ў абласное ўпраўленне па справах выдавецтваў. Але, паважаны чытач, мы вернемся да гэтай інтрыгі пазней...

А тады Слаўгарад забурліў. Як жа — чуткі нарэшце змяніліся друкаваным радком. Сама па сабе з'ява такой сур'ёзнай крытыкі раённага кіраўніцтва ўжо прэцэдэнт. Ведаеце, чаму ён стаўся магчымым? Таму што А. Маліноўскі адзінаўласна меў магчымасць змясціць свае артыкулы ў газеце, скарыстаўшы сваё службовае становішча як рэдактар. Але ці мог бы непрадказальны, самастойнай думкі чалавек кіраваць органам РК КПБ? Знаёмства з галоўным героем гэтага артыкула паказала, што ўчынак А. Маліноўскага стаўся прэцэдэнтам не толькі для жыхароў раёна, але і для кіраўніцтва, партыйнага апарату.

Мы мелі з Аляксандрам Дзмітрыевічам тры дні для паразумення. За гэты час у мяне склалася ўражанне, што ён перажывае цяжкую асабістую драму. Яе можна назваць па-рознаму: пазбаўленне ілюзій, выцясненне з сябе раба, пераацэнка жыццёвых каштоўнасцей. Калі гэтая драма пачалася — цяжка сказаць, выказваць суб'ектыўныя здагадкі таксама ніякавата, бо за некалькі дзён не расшыфруеш чалавечую душу, як гэта ўвогуле магчыма... Але такая ўжо няўдзячная місія журналіста — спрабаваць зазірнуць у душу чалавека.

Увогуле ў мяне меліся ўсе падставы, каб абгрунтавана вынесці суровы вердыкт Г. Краўчанку і К°, і абмежавацца фактурным выкладаннем справы. Усе крытыкаваныя асобы прызналіся, што набылі тавары так, як пра гэта распавёў А. Маліноўскі: тут пытанняў не ўзнікла. Першы сакратар РК КПБ, старшыня райсавета Г. Краўчанка нават ахвотна вытлумачыў, чаму ён так зрабіў. «А што? Сем гадоў працую ў раёне, маю права»,—сказаў ён. (Старшыня выканкама райсавета Л. Бубнаў адказаў гэтак жа, толькі стаж у яго — 21 год). Наконт таго, чаму было не звярнуцца да Савета з просьбай зрабіць ім выключэнне ў набыцці тавараў, Г. Краўчанка знайшоўся, што дастаткова і званка старшыні райсавета ў спажыўсаюз, і ён мае поўнае права рабіць пакупкі такім чынам — тэлефоннае права. Затое не мела права гандляваць такім чынам старшыня спажыўсаюза В. Прахарэнка. Вынікі следства, якое праводзіў М. Дашчынскі (АБРСУ Магілёўскага УУС), для яе былі сур'ёзнымі: пагражаў немалы грашовы наклад ці нават тэрмін зняволення. Зусім тыповы сюжэт з раённага жыцця, у які б добра ўпісалася постаць рэдактара—барацьбіта за безумоўную справядлівасць.

Але ўжо ў лісце чытача, даслаўшага нам нумары «Ленінскага слова» з артыкуламі А. Маліноўскага, кінулася ў вочы характарыстыка аўтара, як «камуніста са светапоглядам, значна бліжэйшым да рэакцыйнай часткі партапарату», у якога не вытрымала сумленне маўчаць пасля такой нясціпласці кіраўнікоў. «Рэакцыйная частка партапарату» і ...вострая, можна сказаць — знішчальная крытыка кіраўнікоў таго ж апарату. Неяк не стасавалася гэта з асобаю аднаго і таго ж чалавека. Можа, таму фокус далейшага даследавання перамясціўся на асобу А. Маліноўскага. Дык хто ж ён?

Першая зачэпка для развагі з'явілася ў фармулёўцы рашэння райсавета: «На старонкі газеты вынесена звядзенне **асабістых** (выдзелена мной. — **Ю. З.**) рахункаў». Ці не ўсё прынцыпова-грамадскае пачынаецца з асабістага?..

**...Кар'ера А. Маліноўскага да ліпеня 1990 г. складвалася няблага. Ён паслядоўна ўздымаўся па прыступках пасадавай іерархіі ў Слаўгарадскім раёне. Пасля сельгасакадэміі 12 гадоў працаваў дырэктарам саўгаса ў Лясной, затым — нейкі час загадчыкам аддзела пісьмаў раённай газеты. Потым змяніў Г. Краўчанку на пасадзе старшыні раённага камітэта народнага кантролю і працаваў у гэтай якасці да ліпеня 1990 г. Па волі Вярхоўнага Савета БССР народнаму кантролю было наканавана доўга жыць, і перад Маліноўскім паўстала перспектыва чарговай змены службовага становішча. Папярэдняя «пасадаслоўная» гаворыць за тое, што Аляксандра Дзмітрыевіча пасля КНК чакала пасада як мінімум намесніка старшыні выканкама райсавета — згодна існуючаму паўсюдна няпісанаму правілу. І ён, зразумела, на гэта разлічваў.**

**Але... Але чамусьці ў дадзеным выпадку традыцыйнае правіла не спрацавала. Чаму—пра гэта ведае, відаць, толькі Г. Краўчанка. Старшыня раённага Савета не захацеў узяць колішняга пераемніка ў сваю каманду. А. Маліноўскаму ён прапанаваў на выбар два шляхі: або — рэдактарства ў газеце, або — вяртанне на пасаду дырэктара саўгаса. Апошняе для Аляксандра Дзмітрыевіча было зусім не даспадобы, калі не сказаць больш...**

На сесіі райсавета Г. Краўчанка заявіў, што Маліноўскі «прасіў у яго» пасаду намесніка старшыні райвыканкама. Яго падтрымаў Г. Кухарэнка, які займаў гэтую пасаду тады. Маўляў, і ў яго Маліноўскі «прасіў пасаду», толькі ўжо старшыні выканкама (відаць, агаворка.—**Ю. З.**). Сказана гэта было перад сходам раённага ўзроўню, бо на сесію запрасілі кіраўнікоў гаспадарак, сакратароў парткамаў, начальнікаў устаноў. Згадзіцеся, цяжка было дэпутатам пасля пачутых сведчанняў прыхільна паставіцца да Маліноўскага. Пра існасць фактаў, выкладзеных у яго артыкулах, быццам забыліся... Акрамя таго, Г. Краўчанка запэўніў дэпутатаў, што напярэдадні павышэння цэн на золата Маліноўскі скупіў яго нешта на суму 3000 рублёў. (Пазней я даведаўся, што гэта — звычайная плётка, ніякага золата Маліноўскі не купляў). А тады, на сесіі, Маліноўскаму слова не далі.

У жніўні А. Маліноўскі згадзіўся пайсці рэдактарам «Ленінскага слова». З верасня сакратар райкама В. Ігнатава ўпэўнена прадставіла калектыву рэдакцыі новага шэфа, па ўсіх крытэрыях — гадаванца раённай наменклатурнай сістэмы. Яшчэ працуючы ў КНК, А. Маліноўскі прыняў удзел у пераследзе дзейнасці раённага камітэта «Дзеці Чарнобыля», які не «слухаўся» райкама КПБ. Старшыня КНК накіроўваў беспадстаўныя абвінаваўчыя запіскі пракурору, у якіх інкрымінаваў кіраўніцтву камітэта «Дзеці Чарнобыля» раскраданне дзіцячага харчавання (яно часова захоўвалася ў гаражы старшыні камітэта Ф. Шкірманкова). Ніводнае абвінавачанне з боку А. Маліноўскага не знайшло пацвярджэння.

А ў халодны лістападаўскі вечар у кватэры Ф. Шкірманкова зазвінеў тэлефон, і першае, што пачуў гаспадар, была просьба не класці трубку. Гаварыў Маліноўскі. Ён прапанаваў забыцца на мінулае і разам абмеркаваць артыкул «Сорам не дым...» «Я папярэдзіў Маліноўскага: ці ведаеш, на што ідзеш? — скажа мне пазней Ф. Шкірманкоў. — Для партыйнай наменклатуры адпаведна іерархіі ў партапараце распрацаваны жорсткія правілы. Галоўная ўмова гэтых правіл як бы пераняла з інструкцыі канваіра ГУЛАГа: крок управа, крок улева, скачок угару лічыцца ўцёкамі, і зброя выкарыстоўваецца без папярэджання! Таму на партыйных пасадах, а таксама ў Саветах, куды насаджаны апаратчыкі, не можа быць непрадказальных людзей. Калі з'явіцца нейкі неспадзяваны дэмакрат, то ён па законе імуннай несумяшчальнасці будзе адразу адторгнуты як іншароднае цела. Пра гэта я і сказаў Маліноўскаму. Але ён быў ужо ва ўладзе падрыхтаванага матэрыялу, які заставалася толькі надрукаваць».

Рэдактар незалежнай магілёўскай газеты «Талака» А. Санчук у размове са мной шчыра прызнаўся, што ад Маліноўскага такога ўчынку не чакаў, бо добра зведаў яго кансерватыўнае стаўленне да прэсы пад час працы ў КНК. «Цяпер я разумею, што гэткая метамарфоза не ёсць выпадковасць. Псіхалагічны склад Маліноўскага такі: што мае на розуме, тое і на языку, а наступствы яго турбуюць ужо потым», — лічыць А. Санчук.

Але я мяркую, што галоўны матыў бунтарства Маліноўскага заключаецца ўсе ж такі не ў хібах асабістай псіхалогіі. Паразважаем: калі былы партыйны работнік развітваецца з партбілетам і публічна адракаецца ад папярэдніх поглядаў, дык гэта і не дзіўна. Але калі партыец са стажам, з бездакорнай дысцыплінай і верай у партыю нечакана-неспадзявана востра джаліць публіцыстычным пяром родную партыю і яе раённых кіраўнікоў, не мяняючы пры гэтым ранейшага светапогляду, тут не можа не ўзнікнуць пытанняў і згадак пра сумленнасць такога ўчынку.

Выступ Маліноўскага наўрад ці адбыўся б без папярэдняй неспадзяванкі з пасадай. У яго хапала часу і магчымасцей значна раней выступіць з крытыкай раённага кіраўніцтва. Ён жа гэта зрабіў толькі пасля ўшчымлення асабістага інтарэсу. Мабыць, для такой катэгорыі людзей шлях да новага светапогляду пачынаецца менавіта з пакрыўджанага гонару. І напачатку было слова.



Фотаэцюд А. КЛЕШЧУКА.

**Я зусім не ўпэўнены, што ўжо ў момант фотанабору свайго першага артыкула А. Маліноўскі кіраваўся нейкімі грамадскімі інтарэсамі. Ён іх яшчэ не разумеў як след. У студзені, праз месяц пасля сесіі райсавета, у паводзінах Аляксандра Дзмітрыевіча можна было заўважыць рэзкія пераходы ад рашучасці да разгубленасці. Відаць, пад час друку артыкулаў ён быў шчыра ўпэўнены, што гэтага дастаткова, каб «зваліць» Г. Краўчанку і К° з пасад. Сам Г. Краўчанка гаварыў мне, што Маліноўскі пад той час, відаць, усвядоміў сябе «скрытым лидером». «Мы яму паказалі, які ён «скрытый лидер», — холадна рэзюмаваў Г. Краўчанка. — Хай цяпер успамінае заатэхнічнае майстэрства». У эйфарыі Маліноўскі ішоў на сесію райсавета, уяўляючы падзенне Краўчанкі і К°, а вяртаўся разбітым і зніякавелым. Свае свайго ж паставілі на месца.**

**Можа, гэтая «шокавая тэрапія» і стала для Маліноўскага пачаткам асабістай драмы, сапраўднага перанараджэння чалавека. Збег абставін прымусіў працягваць распачаты паядынак з Г. Краўчанкам. Менавіта таму першапачатковыя вузкапрыватныя матывы пачалі развівацца, дапаўняцца і перарастаць у іншы стан, адпаведны юрыдычнаму ўзроўню справы. Кіраўнікі райсавета пакінулі А. Маліноўскаму фармальна-юрыдычныя падставы, каб прадоўжыць барацьбу за справядлівасць, не апусціць рукі і не ўпасці духам у змаганні за самога сябе. Але для гэтага спатрэбілася якраз канчатковае адмаўленне ад колішніх уласных пасадавых прэтэнзій і абагаўлення сістэмы, супраць якой выступіў, адмаўленне ад асабістых амбіцый, каб пачаць чэснае, сумленнае змаганне за праўду. Зваротнага шляху не было, і Малі-**

(Працяг на стар. 12).

# ПОКЛІЧ МЛЕЧНАГА ШЛЯХУ

## 22 сакавіка Аляксею Зарыцкаму споўнілася б 80...

Зорнае неба з Млечным Шляхам — сімвал вечнасці прыроды і пастаяннай загадкавасці яе... Наўрад ці раскрыем мы калі-небудзь да канца ўсю гэтую таямнічасць. Наўрад! А, падумаўшы, можа, і няма патрэбы да такога раскрыцця імкнуцца. Іншая справа — спрабаваць наблізіцца да яго. Не ведаю, як каму, а мне, калі гляджу ў начное неба, заўсёды прыходзіць на памяць верш Аляксея Зарыцкага, у якім ладна схоплена і перададзена гэтае яднанне чалавека з вечнасцю, гэтае заўсёднае жаданне як бы пераступіць бар'ер, што падзяляе паўсядзённасць і касмічнасць:

**Гляджу, як Млечны Шлях**
**паволі тоне**
**У апраметнай цьмянай глыбіні.**
**Як горне гэта зорнае бяздонне.**
**Яшчэ, душа, ў бязмежжа**
**зазірні.**

**Яно так горне, быццам**
**просіць зліцца**
**На векі вечныя да кроплі з ім.**
**Душа ж не хоча й кропляй**
**паступіцца:**
**Яго ў сябе ўліць прагне**
**назусім.**

Паяднаны і касмічны размах вечнасці і... вечнасць асобнага чалавечага жыцця, а яшчэ бачна, адчувальна маштабнасць мыслення паэта, эпічны размах яго думак. Твор з апошняй кнігі А. Зарыцкага «Трывожная госця», якая выйшла ў 1986 годзе. Праз некалькі месяцаў Аляксея Аляксандравіча не стала. Перад гэтым у Доме літаратара прайшоў вечар з яго ўдзелам. Вечар пасля паказвалі па тэлебачанні, але сам віноўнік урачыстасці яго паглядзець, на жаль, ужо не мог...

На маім пісьмовым стале гэтая кніжка з дароўчым надпісам паэта. Поруч і іншыя, на якіх Аляксей Аляксандравіч палічыў патрэбным засведчыць сваю прыязь — выбраныя творы ў двух тамах, пераклад паэмы пачынальніка літоўскай мастацкай літаратуры К. Данелайціса «Чатыры пары года», рускія выданні — «Ля вячэрняга кастра» («Советский писатель»), «Вершы» (яна выйшла ў выдавецтве «Художественная литература» ў серыі «Бібліятэка савецкай паэзіі»). Зрабіў Аляксей Аляксандравіч дарункавы запіс і на кнізе ўспамінаў, літаратурна-крытычных артыкулаў і нарысаў «За словам — падарунак». І ці не ўсе запісы заканчваюцца нязменным: «Шчырапрыязна».

Шчырапрыязна — яго любімае слова. Шчырапрыязна ставіўся ён і да паэзіі, і да чытача, пастаянна дакляруючы высокую паэтычную культуру, выяўляючы эрудзіраванасць маскоўскай паэтычнай, увогуле літаратурнай школы. Відаць, у гэтым выявілася не толькі заканамернае жаданне чалавека таленавітага дасягнуць як мага большага ў сваім жыцці. У пэўным сэнсе паўплывалі і абставіны. Нарадзіўся А. Зарыцкі ў тагачасным глухім мястэчку Хоцімску, што знаходзіўся на самым стыку Беларусі і Расіі. Больш таго, вуліца Барабанаўка, на якой жылі бацькі будучага паэта, адносілася ўжо да Расіі, належала Смаленскай губерні, суседняя ж — Магілёўскай. Пра гэта паэт нагадаў у 1969 годзе:

**Белая Русь так блізка-блізка,**
**І Вялікая тут —**
**не чужынай чужой.**
**Над самай-самай мяжой**
**Калыхалася мерна калыска:**
**То з Расіі ды ў Беларусь,**
**То ў Расію ды з Беларусі.**
**Змалку лёг я на правільны**
**курс**
**І з яго не саб'юся.**

Ранняе маленства А. Зарыцкага прайшло ў вёсцы Остэрманск пад Жлобінам, потым бацькі пераехалі ў вёску Забалоцце пад Рагачовам, сярэднюю ж школу заканчваў ужо ў Бабруйску. У Рагачове пасябраваў з аднакласнікам Алесем Сінічкіным, будучым паэтам Алесем Жаўруком. Абодва пісалі вершы, разам выпускалі насценную газету, а ў 1926 годзе сумесна напісалі аповесць «Аб чым галасілі варштаты» — «на злобу дня», як прызнаваўся А. Зарыцкі ва ўспамінах пра Міхася Лынькова.

Міхась Лынькоў на той час працаваў у бабруйскай акруговай газеце «Камуніст», усяляк падтрымліваў маладыя таленты, друкуючы іх творы і ў самой газеце, і ў літаратурным дадатку «Вясна». Праўда, аповесць ён забракаваў, але аднаму з вершаў А. Зарыцкага даў «дабро». Тым самым 1927 год і стаў пачаткам яго літаратурнай працы.

Час быў складаны, але разам з тым даваў і магчымасць раскрыцца лепшым чалавечым задаткам. На сённяшні дзень гэта ўспрымаецца, як нешта неверагоднае: дваццацігадовы А. Зарыцкі едзе ў творчую камандзіроўку ад саміх «Известий». Разам з групай савецкіх пісьменнікаў, прадстаўнікоў розных народаў, ён пабываў на будаўніцтве Харкаўскага трактарнага завода, у шахтах Данбаса, наведаў руднікі... Свайго роду справаздачай аб паездцы сталі карэспандэнцыі, нарысы і вершы. І як пэўнае падагульненне пачатковага этапу ў мастакоўскай біяграфіі — кніга паэзіі з характэрнай назвай «Эпічныя фрагменты» (1932). Яе крытыка сустрэла добра, хоць, папраўдзе, малады аўтар не надта выйшаў за межы рэвалюцыйнай «бадзёрасці». Не заглыбляючыся ў аналіз вершаў, прывядзём урывак з «Лакаматыва гісторыі». Яго дастаткова, каб адчуць, чым жыў тады А. Зарыцкі: «Парваўся, нацягнены, нібы тугі сталёвы трос, з календароў лісткі садзьмуў магутны подых. У будучыню мчыць лакаматыў наўпрост, лакаматыў свабоды».

Ацэнка крытыкі надала ўпэўненасці. А. Зарыцкі вырашыў паступаць на нямецкі факультэт Маскоўскага педагагічнага інстытута замежных моў. Што меў схільнасць да іх, сведчыць і тое, што неўзабаве падахвоціўся даваць урокі нямецкай А. Твардоўскаму, з якім пазнаёміўся праз Алеся Кучара — А. Кучар і А. Твардоўскі былі студэнтамі Маскоўскага інстытута філасофіі, літаратуры і гісторыі.

Вывучэнне замежных моў для А. Зарыцкага — забягаю наперад — не прайшло бясследна. Гэтаксама, як і моў народаў СССР. Ён стаў пазней адным з прызнаных майстроў беларус-



1986 г. Творчы вечар А. ЗАРЫЦКАГА.

Фота Ул. КРУКА.

# «ГАЛОЎНАЕ—СВАБОДА ПРАЦЫ...»

## Уражанні аб «Уражаньнях» Власта

Амаль шэсць дзесяцігоддзяў імя гэтага чалавека або нельга было ўпамінаць увогуле, або можна было ўпамінаць толькі ў негатыўным плане. Усяго 54 гады пражыў акадэмік Ластоўскі. Вацлаў Юстынавіч са снежня 1919 года ўзначальваў Раду міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі, але потым адышоў ад палітычнай дзейнасці, выйшаў з урада БНР і прасіў урад БССР вярнуцца на навуковую работу ў рэспубліку. Яму былі дараваны ўсе памылкі, да якіх, напэўна, прылічалася і кіраўніцтва ўрадам БНР. Ластоўскі атрымаў грамадзянства БССР, у красавіку 1927 года пераехаў у Мінск, дзе працаваў спачатку дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, а потым неадменным сакратаром Беларускай Акадэміі навук, загадчыкам кафедры этнаграфіі.

Крыху больш трох гадоў давялося Ластоўскаму пражыць на тэрыторыі Савецкай Беларусі. Летам 1930 года ён быў арыштаваны, пазбаўлены звання акадэміка і ў красавіку 1931 года высланы на 5 гадоў за межы Беларусі, у Саратаў. У другі раз В. Ю. Ластоўскі быў арыштаваны 20 жніўня 1937 года, прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Па другому прысуду Власт (так ён падпісваў свае літаратурныя творы.—**Э. І.**) быў рэабілітаваны 16 верасня 1958 г., а па першым — параўнаўча нядаўна, 10 чэрвеня 1988 г.

Я не буду гаварыць аб Ластоўскім як палітычным дзеячы. Мяне больш цікавіць яго творчая спадчына. Творы Власта ў апошні час друкавалі «Бярозка», «ЛіМ», «Спадчына». Часопіс «Маладосць» (№ 1 за г. г.) таксама надрукаваў два творы Вацлава Ластоўскага — публіцыстычны («Уражанне ад паездкі ў Беларускую Радавую Сацыялістычную рэспубліку») і мастацкі (аповесць «Лабірынты») з прадмовай і пасляслоўем Яўгена Лецкі.

Я хачу спыніцца на першым з гэтых твораў. Гаворка ідзе аб уражаннях Власта ад паездкі з Коўна (Каўнаса) ў БССР на Акадэмічную канферэнцыю па пытаннях правапісу, скліканую Інстытутам беларускай культуры ў лістападзе 1926 г. Не ідэалізуючы гэты твор Ластоўскага, нельга не прызнаць у большасці выпадкаў тонкую назіральнасць аўтара і дакладнасць ацэнак.

Як выпускніка БДУ імя Леніна і аўтара дысертацыі пра яго першага рэктара, мяне больш за ўсё зацікавіў раздзел «Беларускі дзяржаўны універсітэт». Ластоўскі звяртае ўвагу на два пытанні: матэрыяльную базу універсітэта і ход беларусізацыі ў гэтай вышэйшай навучальнай установе. Ён прыводзіць інфармацыю рэктара БДУ прафесара Пічэты, што ў 1926 годзе ўсяго толькі 12 працэнтаў навуковых дысцыплін было прачытана на беларускай мове. Адзначаючы, што пры БДУ выходзяць асобнымі кніжкамі «Працы Беларускага Дзяржаўнага Універсітэту», якіх ужо выйшла шэсць, Ластоўскі падкрэслівае, што ад кніжкі да кніжкі артыкулаў на беларускай мове робіцца менш.

Вацлаў Юстынавіч спрабуе растлумачыць прычыну гэтай з'явы. Ён піша: «Разумеецца, віна таго, што ў «Працах БДУ» няма работ беларускіх прафесараў, ніякім спосабам не можа быць прыпісана бальшэвіцкай уладзе, але толькі беларускай прафесуры. Называючых сябе беларусамі паміж прафесуры БДУ ёсць людзей нямала, але, знача, мала між іх творчых сіл».

На мой погляд, Ластоўскі ў сваіх «Уражаннях» выказвае вельмі цікавыя думкі аб студэнцтве БДУ і ролі універсітэта ў духоўным жыцці краю — хоць трохі і рэзкія, але даволі арыгінальныя. Менавіта пад уражаннем сустрэч са студэнцтвам з'явіліся наступныя радкі: «... Трагедзіяй Менскага універсітэту ў даны момант з'яўляецца тое, што яго знешняя этыкетка не адпавядае ўнутранаму зьместу. Яго ўкраўленьне напатыкае галоўную перашкоду ў тым, што краёвыя маладыя сілы яшчэ не нарасьлі, а старыя, якія працуюць цяпер, лішне павольна эвалюцыянізуюць і разпораз завяртаюць да прывычных шляхоў думаньня, асабліва ў дзедзіне высунутых сучаснасьцю палітычных, культурных і ўзаеманародных стасункаў...»

Ніколі ў нашым друку, як у 20-я гады, так і пазней, я не сустракаў такіх рэзкіх ацэнак Акадэмічнай канферэнцыі па правапісу 1926 года, такога прынцыповага разбору яе недахопаў. І ледзь не з усімі думкамі Ластоўскага можна пагадзіцца, яны клічуць нас да аб'ектыўнага аналізу вынікаў канферэнцыі. У сваіх «Уражаннях» Вацлаў Юстынавіч пісаў: «Да недахватаў трэба залічыць тое, што стэнаграфісткі, якія запісывалі прамовы, умелі толькі расійскую стэнаграфію, дзеля гэтага запіс беларускіх прамоў рабілі па-расійску, паводле, на скорую руку дыктаванага ім пры століку, перакладу. Пасьля гэтыя перакладныя стэнаграмы адшыфроўвалі, перакладаючы другі раз на беларускую мову. У дадатку стэнаграфісткі гэтыя спецыяльна прыстасаваліся запісваць усякія палітычныя прамовы, але неабзнаёмленныя з філёлёгічнай тэрміналогіяй, перакручвалі апошнюю да немагчымасьці. У выніку атрымалася тое, што друкаваныя ў «Савецкай Беларусі» — нямаль усе прамовы былі папеpакручваны, а некаторыя так скажаны, што ў іх ні сэнсу, ні лады. Гэткая доля сустрэла і маю прамову, зьмешчаную ў газеце «Савецкая Беларусь». Сьпярша я абурыўся і хацеў пратэставаць, а пазьней махнуў рукой...»

Інтэлектуальнае жыццё як Менска, так і ўсёй сучаснай Радавай Беларусі, адзначае Ластоўскі, знаходзіцца ў Інстытуце беларускай культуры. Добра ведаючы, што вывучэнне гісторыі, навукі і культуры беларускага народа ў 20-я гады, акрамя БССР, ішло ў Літве, Латвіі, Заходняй Беларусі, Чэхаславакіі і ў іншых краінах, Вацлаў Юстынавіч лічыць: «Менск мае ўсе шансы стацца беларускім культурным цэнтрам, а сьцісьлей кажучы, павінен стацца ім ІБК у Менску. Але гэта станецца тады, калі яго высілкі ператворацца ў тэмы грунтоўных, не дылетанцкіх, а запраўды навуковых досьледаў. Ускладаныя на яго надзеі павінен Менск замацаваць сваімі інтэлектуальнымі высілкамі, каб ня толькі веруючыя, але і недаверкі паверылі. **Галоўнае — свабода працы** (падкрэслена мной.—**Э. І.**), а сродкі на працу маюцца».

Некалькі старонак «Уражанняў» Ластоўскага прысвечана «Маладняку». Гаворачы аб тым, што з гэтай арганізацыі выдзелілася група старэйшых пісьменнікаў «Узвышша», Власт ужо тады дае высокую ацэнку такім маладнякоўскім пісьменнікам, як Кузьма Чорны і Дубоўка. На думку Ластоўскага, першы вельмі арыгінальны і сапраўды глыбокі талент, які можа выліцца ў пісьменніка «першараднай усесветнай вагі», другі таксама не радавы талент, ён чуткі знаўца і гурман як формы, так і слова.

У сваіх нататках Власт знайшоў месца і для характарыстыкі музеяў і тэатраў Савецкай Беларусі. Ён дае вельмі высокую ацэнку дасягненням тэатральнага мастацтва рэспублікі, асабліва дзейнасці БДТ у Менску і другога Дзяржаўнага тэатра ў Віцебску. Яго эмоцыі, як кажуць, б'юць праз край: «Дасьціжэнні беларускага тэатру за апошнія гады — аграмадныя».

Едучы праз Полацк у Менск, Ластоўскі выказвае думку аб былой велічы горада. З якім жалем сказаны такія словы:



Іван Навуменка

# Смаленне кабана

**Я закончыў работу над аповесцю «Дзяцінства». Дзяцінства героя аповесці прыпадае на перадваенны час, на 30-я гады з іх агромністымі, часам жорсткімі для лёсаў людзей пераменамі, з ломкай прывычнага ўкладу, парадку жыцця. І разам з тым дзяцінства ёсць дзяцінства: адкрыццё новай істотай свету, загадак, таямніц жыцця.**

**Аповесць друкуецца ў 4—5 нумарах часопіса «Полымя» за гэты год.**

**Аўтар.**

чалавека, разрывае на кавалкі. Асабліва лютыя ваўкі ў Піліпаўку...

Цяпер якраз Піліпаўка. Сябрукі трывожна ўзіраюцца ў сіні паўзмрок, які паволі ахутвае шэрыя схілы пагорка. Ускрай балота цягнецца змрочны алешнік. Хлопцам здаецца, што на яго ўзбочыне нешта варушыцца.

— Давай пагонім назад,— гаворыць Адам.

— Давай.

З ваўкамі жарты кепскія. Хлапчукі самі чулі, як сярод ночы ў пачатку зімы з Мядзведзіхі даносіцца працяжнае і страшнае воўчае выццё. У хляве ў такія хвіліны трывожыцца жывёла: іржэ конь, нема раве карова. Хоць ваўкі да вуліцы Савецкай, на якой жывуць Вася з Адамам, ніколі не дасягаюць. Бо трэба пераскочыць чыгунку. Жалезных рэек, стрэлачных і паравозных агнёў ваўкі баяцца. На вуліцы Варашылаўцы, якая мяжуе з балотам, воўк дзейнічае інакш. Ён падграбаецца пад хлеў, бывае, перадушыць усіх авечак і толькі адну праз дзірку пацягне з сабой.

У разгар Піліпаўкі хлопцы наогул не ходзяць на Гарадзінку. Катаюцца на Забfroddзі. Так завецца разлеглая нізкая лугавіна, якая восенню таксама заліваецца вадой, а зімой замярзае.

Да Забfroddзя нават бліжэй, чым да Гарадзінкі. Бо яно размешчана наўзбоч Савецкай вуліцы, у пачатку якой, ледзь не ўпрытык да чыгуначнага пераезда жывуць Вася з Адамам.

Летам Забrodдзе — сенажаць, на якой буяе багатае разнатраўе, і якое загароджваюць. Таму нешырокі праход на лугавіну, і каб туды не трапіла жывёла, яго загароджваюць жэрдкамі. Вася і летам бегае на Забroddзі. Летам яно нагадвае спярэшчаны рознакаляровымі краскамі дыван. Сінія, жоўтыя, чырвоныя кветкі, над якімі днём не сціхае музыка. Здаецца: ціхі, прыглушаны, прыемны для слыху аркестр іграе над травяной ваколіцай. Гэтак гудуць пчолы і чмялі.

Васю нават прыемна катацца на Забroddзі.

Сюды не дабіраюцца ваўкі. Лес далёка, а на чатырохвярстовай Савецкай вуліцы столькі сабак, і яны ўсчынаюць такі брэх, што сюды не тое, што воўк, лісіца ці нават тхор не адважыцца падступіцца.

Вася любіць Забroddзе не меней, чым Гарадзінку. Ёсць прычына. На Забroddзі жыве Ліза. Яе нізенькая, з малымі акенцамі хата стаіць наўзбоч вуліцы, каля праходу на Забroddзе.

Ліза — тоненькая, як былінка, са светлымі кудзеркамі валасоў, ціхая, сарамлівая і, можа, пагэтаму вельмі падабаецца Васю. Вася марыць пра тую часіну, калі разам з Лізай пойдзе ў школу. Бо ёй, як і яму, па сем гадоў. Адаму восем, але ён у школу не пайшоў, бо хварэў жаўтухай.

Бацька ў Лізы беларус, працуе цырульнікам, а маці — немка. Таму Ліза ўмее гаварыць па-нямецку. Васю гэта таксама вельмі цікава.

З-пад лёду на ваколіцы праглядвае не чорная, як на Гарадзінцы прорва, а зялёная трава. Васю шкада травы. Яшчэ далёка да вясны і колькі прыйдзецца трываць зялёнай жывой траве ў ледзяным палоне.

Вася глядзіць на чаравікі, яны зусім дзіравыя. Пасля таго, як лёд засыпле снегам, Адам будзе катацца па саннай дарозе. Васю гэта не свеціць.

Вася жыве ў дзеда Піліпа. Маці нараджае яшчэ аднаго брата, якому нават імя яшчэ не прыдумалі, і Вася перабіраецца ў дзедаву хату. Бо маці яшчэ нядужая, ляжыць у ложку і не можа гатаваць ежу.

Вася памагае маці: коле дровы, носіць ваду. Потым ідзе да дзеда.

Вася памятае і той дзень, калі Пятрок нарадзіўся. Каля маці ўвіхаліся розныя бабкі, прыходзіў нават тоўсты, нізкі фельчар Прохар Прохаравіч, і на Васю, пасля таго як паявіўся на свет крыклівы, няўрымслівы Пятрок, ніхто не звяртаў увагі. Вася страшэнна раззлаваўся. У адчаі схапіў малаток і гэтак грукнуў па дзвярах, што вядуць у другую, чыстую, тады яшчэ халодную палавіну хаты, што ад філёнкі адскочыла драўляная паска. Бацька пасля прыбіў цвічкамі гэтую паску да дзвярэй.

З'яўленне на свет яшчэ аднаго брата Вася ўспрымае спакайней, чым мінулы раз, калі нарадзіўся Пятрок. У ягоных грудзях нават тоіцца надзея, што калыхаць меншага брата цяпер будзе Пятрок і такім чынам развяжа Васю рукі. Настане для Васі доўгачаканая свабода, бо Пятрок валачэцца за ім нібы хвост.

Аднак не спраўдзіліся Васевы надзеі. Самы малодшы брат — яго нарэшце назвалі Сяргеем, ляжыць у люльцы, і зноў, як раней Петрака, калыша яго Вася. Бо Пятрок ад усялякай работы ўвільвае, як толькі можа. То ў яго рука баліць, то нага, то галава, то жывот. Не, на Петраку не паедзеш...

Вядома, Вася трохі крыўдуе на бацькоў. Адам у сям'і адзін і жывецца яму лепей, чым Васю. У яго і кажушок ёсць, і бліскучыя стальныя канькі, тым часам Вася нават не марыць пра такія рэчы. Паспрабуй, пракармі тры раты. Хлеба ці нават звычайнай бульбы не набярэшся.

Спіць Вася з дзедам на печы. На жэрдках, прымацаваных пад самай столлю, вісяць перавяслы цыбулі і густа змазаныя дзёгцем дзедавы боты. Яны даюць пах на ўсю хату і пах гэты Васю прыемны. Дзіўны дзед. Ён надзявае боты толькі па вялікіх святах—на вялікдзень, на радаўніцу — а ўвесь астатні час ходзіць у лапцях, ці пасталах, як іх называюць у мястэчку.

Дзіўны дзед яшчэ і таму, што ў яго ёсць вялікая, туга напакаваная мікалаеўскімі і керанскімі грашамі шабета. Па яго словах, за гэтыя грошы ён пабудаваў бы дваццаць такіх, якую мае, хат, а ботаў купіў бы—не злічыць. То чаму ён гэтага не зрабіў?..

У адзін з тых дзён дзед бярэ Васю з сабой у гумно. Ён пачынае сушыць, малаціць, веяць жыта, грэчку, што выраслі на яго кавалачках поля, раскіданых вакол мястэчка.

У правай палавіне дзедавага гумна размяшчаецца падосець: так завецца прыбудова, складзеная з круглага бярвення, чорнага ад дыму і сажы. Падосець мае вышкі, інакш кажучы, жардзяную столь, на якую дзед праз цёмную адтуліну ўскідвае доўгімі віламі снапы. Затым узлазіць на вышкі па лесвіцы сам, парадкуючы снапы так, каб яны шчыльна сталі адзін каля аднаго.

Вася ахвотна памагае дзеду. Паколькі падосець не мае ні вакон, ні дзвярэй, залазіць у яе трэба на карачках. Вася з дзедам залазяць, раскладваюць агонь. Сухія дровы гараць добра, асвятляючы змрочную з закуранымі сценамі падосець. Цёплы дух ідзе ўгору, і сушыць снапы.

Днём дзед цупае на таку цэпам. Снапы сушыць ноччу. Вася дзеля начной прыгоды ахвотна памагае дзеду, хоць прыгода не надта прыемная. У чорным, цёмным склепе падосеці поўна дыму, які проста выядае вочы. Вогнішча гарыць пасярэдзіне склепа, грэе твар, грудзі. Але спіне няўтульна: знізу, з гумна ў падосець прабіраецца зімовы холад.

Тым часам і цікава ў падосеці. Гарыць агонь, яго водбліскі скачуць па цёмных закопчаных сценах. На дварэ зіма, чуваць, як вецер свішча, б'е ў сцены снежнаю крупкай. Часам нібы гром прагрыміць. Гэта імчыць па сталёвых рэйках цягнік. Ад дзедавага гумна да высокага насыпу чыгункі метраў пяцьдзесят. Васю іншы раз нават як бы сорамна з-за гэтага гумна. Бо вельмі ў яго нягеглы выгляд: нізкае, прысадзістае, з выгнутай сцяной і як бы пераломаным папалам гнілым саламяным дахам. Што думаюць пра гэтае гумно добра апранутыя, часам нават з акулярамі на носе інтэлігентныя людзі, якія выглядваюць з вокнаў прыгожых пасажырскіх вагонаў? Відаць, нічога добрага не думаюць.

Дзед, седзячы пры вогнішчы, штонебудзь апавядае. Найчасцей параўноўвае жыццё мінулае і сучаснае. Раней жыццё было добрае і правільнае, лічыць дзед. Жыццё цяпер, аднак, перавярнулася, зыначылася і стала такім нікчэмным, што нават гаварыць пра яго не хочацца.

Васю, аднак, дзедавы разважанні не цікавяць. Яму жыццё падабаецца. Ён вельмі захапляецца птушкамі, агнястрэльнай зброяй і вайной, якая па чутках была не гэтак даўно. Немцы прыходзілі ў мястэчка, белапалякі, розныя булак-балаховічы. Тым часам пра вайну, зброю дзед нават слухаць не хоча. Да птушак таксама зусім абыякавы.

— Навошта табе вераб'і? Клююць зерне, шкодзяць. Погань, адным словам. Журавы цэлую дзялянку майго аўса збэрсалі. Тую, што ў лесе раскарчаваў.

Чыгунку дзед проста ненавідзіць.

— На чорта яна? Ведаў бы ты, які тут быў лес. Ні ў якім другім месцы такога не было. На Далёкім, Блізкім Лядзе раслі адны дубы. Неба вярхамі даставалі. Наўкруг сяла—дубы і дубы. Як у вянку сяло стаяла. Спляжылі, спілавалі, вывезлі наш лес па гэтай чыгунцы. Душа баліць.

Вася з нецярпеннем чакае каляды. Чуў, што яны ўжо блізка. Да Васі прыходзіць Адам.

— Мы будзем кабана калоць, — паведамляе.

— І мой дзед будзе,—пахваляецца Вася.

Ёсць загад: здаваць шкуры, шчаціну ў сельпо, але ніхто загад не выконвае. Што за сала без скуркі? Няма ў ім ніякага смаку. Прыцемкам, на досвітку, таячыся ад вока сельсаветчыкаў, вуліца паціху смаліць вепрукоў.

Вася пайшоў паглядзеў бы, як смаляць іхняга кабана. Але ніхто яго не пусціць.

Ад Васі не хаваецца, што і дзед надвячоркам прыносіць з гумна, ставіць у кут хлява некалькі снапоў кулявой саломы і да Івана—Ляпіцы або Казла ідзе. Вядома ўсім: Іван, малы, шчуплы, шустры, як верабей, не толькі лепіць печы, устаўляе ў вокны шкло, фарбуе аканіцы, а яшчэ коле ўсяму канцу вуліцы свіней. Мае спецыяльнае начынне: доўгае вострае шыла, якім падшывае валёнкі лямцам, і меншае шыльца, на якое накручвае, а затым рве шчаціну з заколатага, нерухомага вепрука.

Калі вепрука колюць і ён страшэнна вішчыць, Вася ў такі момант з хаты не выходзіць. Не любіць ён гэтага пранізлівага віску. Дзіва тут няма. Вяпрук жывы і яму баліць. Толькі дурны вяпрук. Не разумее, што яго спецыяльна задабрываюць. Перад тым, як закалоць, даюць есці, затым чэшуць пад чэравам, каб ён пакорліва лёг...

Похапкам апрануўшыся, Вася выскаквае з хаты толькі тады, калі бачыць трапяткія водбліскі агню. Кабана смаляць за хлявом. Іван-Ляпіца перадае бабе Аўгінні пук шчаціны. Баба здасць гэтую шчаціну ў нарыхтоўчую краму, купіць за яе дзве ці тры катушкі нітак, іголак, а таксама чырвоных ці сініх стужак і некалькі маткоў запала. Так проста іголак, нітак і стужак у мястэчку не прадаюць.

Сухая кулявая салома гарыць добра, рухавыя водбліскі агню скачуць па сцяне хлява, іскры ляцяць высока ў цёмнае зімовае неба. Цемень то адступае, то ўшчыльную прыступае да месца, дзе смаляць кабана. Трашчыць і непрыемна пахне паленая шчаціна. Дзюрачка, праз якую ўвайшло ў сэрца кабана доўгае Ляпіцава шыла, заткнута драўляным калочкам—каб не выцякала кроў.

Ужо абсмалілі, абшкрэблі нажом кабана, збіраючыся несці яго ў хату, як на панадворку нечакана з'яўляецца—нібы з неба саскоквае—Сцяпан Бохан, член сельсавета.

— Добрае утра,—гаворыць Сцяпан.—Смаліце кабана, значыць. Парушаеце закон.

Бохан нізкі, круглы, апрануты ў чорны дублёны кажушок. На круглым чырванаватым твары выдзяляюцца сінія, як валошкі, вочы і пшанічныя вусы.

Мужчыны нібы слупянеюць. Затое бабка Аўгіння імгненна знаходзіць выйсце з непрыемнага становішча. Пачынае літанне як па нябожчыку.

— Захварэў наш кабанчык, Сцяпан. Тры дні нічога не еў. Паглядзі, ён жа худы, як ражон. Вецінарны доктар спраўку даў, каб закалолі. Прапасці мог. Тады б проста ў зямлю закапалі...

— У спраўцы напісана, што кабана і смаліць можна?—дапытваецца Сцяпан.

— Колькі тут той скуры! Пойдзем у хату, Сцяпанка. Няхай мужчыны тут валаводзяцца.

Баба Аўгіння бярэ члена сельсавета за локаць і вядзе ў хату. Пра спраўку ветэрынарнага доктара яна, вядома, выдумала. Ніякай спраўкі няма. Проста дрэнна ўрадзіла бульба і кабана нечым карміць. Дый скварку трэба мець на каляды.

— Не прасыхае ад гарэлкі сельсаветчык,—лаецца Ляпіца.—Яго цяпер час. Пакуль не паколюць, не пасмаляць свіней...

— Чалавек такі. Нікае ўсюды, як сабака. Нюхае, віжуе.

Сцяпан даводзіцца раднёй бабцы Аўгінні. Нават блізкай: пляменнік, род бабкі Аўгінні, як і Сцяпана, вядзе пачатак ад Боханаў, якіх у мястэчку не гэтак многа.

Сцяпана адчайна лаюць у дзедавай і Васевай сям'і. Тым часам у такіх, як цяпер, выпадках запрашаюць за стол, ставяць чарку. Бо мае ўладу Сцяпан. Данясе—і на любога гаспадара сельсавет накладзе штраф.

Мужчыны, каб не даць кабану астыць і заняць рукі, смаляць нават ягоныя капыты.

Нарэшце вяртаецца бабка Аўгіння, на чым свет стаіць кляне Сцяпана, якому дала выпіць. Нарэшце не надта цяжкага кабана, узяўшы за ногі, мужчыны нясуць у хату...

# СЛАВЯНСКІЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ



**З 5 па 13 красавіка ў Мінску будзе праходзіць міжнародны фестываль «Славянскія тэатральныя сустрэчы». Паколькі Беларусі належыць ініцыятыва яго правядзення, яна і выбрана месцам «Сустрэч». Ідэю правесці фестываль з гатоўнасцю падтрымалі Расія і Украіна. Міністэрства культуры і Саюзы тэатральных дзеячаў трох славянскіх рэспублік сталі арганізатарамі фестывалю. За межамі СССР прапанова ўдзельнічаць у «Славянскіх тэатральных сустрэчах» знайшла падтрымку ў Славеніі, Славакіі, Польшчы і Балгарыі.**

**Прадстаўляем чытачам «ЛіМа» ўдзельнікаў тэатральнага форуму.**

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Вітаю ўсіх удзельнікаў свята славянскай сцэны ў сталіцы Беларусі.**

**Я думаю, што фестываль мае велізарнае значэнне, асабліва сёння, у трывожны для нашых краін час, калі гісторыя робіць круты паварот, эканамічныя нелады і палітычныя страсці абуджаюць сілы, якія імкнуцца да раз'яднання нашых народаў, роднасць якіх мае тысячагадовую гісторыю.**

**Славянскія краіны ўнеслі ў тэатральнае мастацтва значны ўклад, які садзейнічае ідэям братэрства і дабра.**

**Дазволю сабе нагадаць, што сама тэорыя сцэнічнага ансамбля як асновы спектакля была прапанавана і распрацавана ў Расіі, на славянскай зямлі. Я думаю, што гэта сімвалічна. Гэта выяўляе духоўнае імкненне нашых народаў!**

**Канчаецца XX стагоддзе, стагоддзе станаўлення і развіцця самых разнастайных форм нашай еднасці...**

**Я перакананы, што адчуванне локця, характэрнае людзям тэатра, і ўсведамленне агульнасці славянскіх культур — гэта аснова нашай дружбы, якой нікому не ўдасца падарваць! Падумайце пра тое, каб мы часцей ігралі спектаклі адзін аднаго, падумайце пра новыя формы творчай дачыненасці. Жадаю вам усім выдатных спектакляў, поспехаў у публікі. Сэрцы славянскіх акцёраў заўсёды былі адкрыты народам усіх краін, а нашы драматургі і рэжысёры былі ў першых шэрагах сусветнага тэатра. Няхай наш фестываль прадоўжыць гэтыя традыцыі.**

**Кірыл ЛАЎРОЎ,**
**старшыня праўлення СТД СССР.**

## МХАТ імя А. Чэхава

### Масква

Пастаноўка «Вішнёвага саду», якую ажыццявіў у 1989 г. А. Яфрэмаў, з'явілася ў няпросты для гісторыі нашай краіны перыяд. Мы называем яго пераходным. Ад чаго? Да чаго? «Куды нясе нас рок падзей»? Нявысветленасць адказаў на гэтыя пытанні нараджае складаную гаму пачуццяў, поўную спадзяванняў і трывог. І ў гэтай атмасферы грамадскага браджэння цвярозае, узвышанае стаўленне Чэхава да рэчаіснасці, яго ўнутраная свабода і стойкасць, яго ўменне не збівацца ў пошласць хуткіх ацэнак зноў робяцца надзіва сучаснымі і так неабходнымі нам. Тым больш, гэта датычыць «Вішнёвага саду» з яго прадчуваннем хуткіх перамен і з такім настальгічна шчымлівым пачуццём расставання з мінулым.

Гэты спектакль стаў патрэбны тэатру таму, што хрэстаматыйна знаёмая гісторыя продажу маёнтка і разбурэння цудоўнага саду зноў сутыкае нас з драмай людзей, якія апынуліся тварам у твар перад выбарам лёсу. Сваёй краіны, не меней. Суперажываючы героям Чэхава і адначасова здзіўляючыся іх легкадумнасці перад катастрофай, што насоўваецца, мы зноў дрэнчымся пытаннем Лапахіна, звернутым да Ранеўскай: «Отчего же, отчего Вы меня не послушали? Бедная моя, хорошая, не вернешь теперь». Адказ на гэтае пытанне не можа ляжаць у плоскасці вузка практычнай дзейнасці. Тут пастаўлена праблема глабальная. І вырашыць яе можна, толькі захаваўшы ў сабе чалавечнае, свабоднае ад усялякіх форм рабства. Магчыма, у гэтым і заключаецца запавет Чэхава.

Мастацкае афармленне спектакля выканана В. Левенталем, народным мастаком РСФСР. Ролі ў спектаклі выконваюць: І. Смактуноўскі, Н. Ценякова, І. Савіна, В. Нявінны, П. Шчарбакоў, В. Сергачоў, Я. Лісоўская.

## Украінскі акадэмічны тэатр імя І. Франка

### Кіеў

Пасля аднаго з прэм'ерных спектакляў «Энеіды», бурлеск-оперы кампазітара С. Бідусенкі, крытык Барыс Любімаў, выступаючы перад трупаю, сказаў, што пастаноўка падобнага спектакля — «каралеўская» ідэя. Сапраўды. Сёння, калі адбываецца адраджэнне нацыянальных культур, як ніколі да часу стаўся Іван Пятровіч Катлярэўскі (а менавіта яго-ная «Энеіда», створаная па матывах рымляніна Вергілія, зрабілася падставаю для інсцэніроўкі-лібрэта С. Данчанкі і І. Драча) — першы літаратар, які данёс да нас ні з чым непараўнальнае пачуццё першароднасці нашых продкаў, у яскравай, непаўторнай форме распавёў украінцам іхнюю гісторыю...

Нельга сказаць, што ў гісторыі ўкраінскага тэатра не было спробаў вывесці паэму І. Катлярэўскага на падмосткі, ды ў папярэдніх прачытаннях акцэнт рабіўся больш на сатырычных аспектах. С. Данчанка звярнуўся да народнай смехавай культуры, да карнавальнай стыхіі, якая на Украіне найбольш прадстаўлена кірмашом. Кірмаш-карнавал мае сусветны характар, ягоны смех святочны, тут не бывае ні акцёраў, ні гледачоў, але ўсе — паўнапраўныя ўдзельнікі відовішча.

Прэм'ера «Энеіды» адбылася ў 1986 годзе, свой поспех франкоўцы замацавалі ў шмат якіх гарадах нашай краіны і ў Польшчы.

## Тэатр Новы

### Познань, Польшча

«Партрэт» С. Мрожака прадстаўляе тэатр у рэжысуры Э. Корына і сцэнаграфіі Д. Собчак.

«Мы — дзеці эпохі, эпоха — палітычная. Усе твае, нашы, вашы, дзённыя справы, начныя справы — таксама справы палітычныя», — вершык з праграмкі спектакля акрэсліць збольшага тэму спектакля: спалітызаванасць грамадства, дзе да кожнай праявы чалавечага ці кожнай грамадскай з'явы прышпілены цэтлік палітычнай ацэнкі.

## Тэатр імя Ёнаша Заборскага

### Прэшаў, Славакія

Прафесійны абласны тэатр узнік у 1944 годзе як драматычны, пазней пры ім сфарміравалася аперэтачная трупа і тэатр юнага гледача. Трэба заўважыць, што Прэшаў, які налічвае сто тысяч жыхароў, мае ўсе падставы ганарыцца культурнымі і тэатральнымі традыцыямі. Школьны тэатр існаваў тут з XVII ст. пры евангелічным ліцэі, а пад час нацыянальнага адраджэння XIX ст. горад прыцягнуў шмат славацкіх пісьменнікаў і філосафаў, сярод якіх вылучаўся Ёнаш Заборскі, чыё імя і нададзена тэатру.

На фестываль госці з Прэшава прывезлі п'есу аднаго з вядучых славацкіх драматургаў К. Горака «Згібенне футболу ў горадзе К»—шматзначную, абсурдна-гратэскную метафарычную трагікамедыю, а таксама сваю сцэнічную версію п'есы А. Галіна «Зоркі на ранішнім небе».

## Славенскі нацыянальны тэатр-драма

### Югаславія

Славенскі тэатр паступова ўзбагачаецца пошукамі новых формаў і жанраў, паспяховымі спробамі новага прачытання вядомых класічных твораў. Прыходзіць поспех і на розных фестывалях, шырацца міжнародныя сувязі славенскіх тэатраў. Сярод такіх сувязей — пастаноўка ў 1984 годзе В. Раеўскім «Зацюканага апостала» А. Макаёнка ў тэатры Марыбора і пастаноўка Б. Гомбачам у 1984 годзе ў тэатры імя Янкі Купалы п'есы славенскага паэта і драматурга Мацея Бора «Зоркі вечныя». Нядаўна было падпісана пагадненне аб дружбе і творчым супрацоўніцтве паміж Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатрам імя Я. Купалы і калектывам драмы Славенскага нацыянальнага тэатра, якое прадугледжвае і абмен пастановачнымі брыгадамі, і ўзаемную пастаноўку п'ес беларускай і славенскай драматургіі, і ўдзел у тэатральных фестывалях у нашых краінах і рознае іншае.

На фестываль у Мінск прыязджае вядучы драматычны тэатральны калектыў Славеніі — Славенскі нацыянальны тэатр-драма. Ён так называецца, бо ў яго адзінае гаспадарчае кіраўніцтва з опернай трупай, якая мае назву Славенскі нацыянальны тэатр — опера.

Тэатр з Любляны прывозіць спектакль «Цікаванне Гадо» па п'есе Драга Янчара, вядомага сучаснага славенскага празаіка і драматурга, прэзідэнта Славенскага ПЭН-клуба. Беларускаму чытачу ён ужо вядомы: летась выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла яго раман «Галернік» у перакладзе Івана Чароты.

У сваіх драмах, якія даволі часта ставяцца на сцэнах славенскіх тэатраў, Драга Янчар узнімае, як правіла, даволі вострыя і надзённыя маральныя праблемы сучаснасці. «Цікаванне Гадо» — гэта своеасаблівая парафраза, паленіка з сусветна вядомай абсурдысцкай драмай Самуэля Бекета «У чаканні Гадо». Славенская крытыка адразу адзначыла, што калі ў С. Бекета асноўная спружына дзеяння — статыка, чаканне, дык у Д. Янчара — дынаміка, напружанае высвятленне складаных узаемаадносін персанажаў. Персанажы дзейнічаюць у своеасаблівай замкнутай прасторы, з якой няма выйсця. Паступова драматург раскрывае іх неадназначныя цікавыя характары, паказваючы, што цікаванне аднаго за адным нічога ўрэшце не дае, чалавек заўсёды застаецца сам-насам з сабой, са сваімі ўспамінамі. У падтэксце драмы «Цікаванне Гадо» гучаць выразныя антытаталітарныя матывы.

Спектакль у Любляне паставіў малады рэжысёр Марка Сосіч. Мастак — Мілаш Ючавіч. У галоўных ролях — артысты Барбара Леўсцік, Польдэ Бібіч, Бранка Грубар.

**В. Н.**


«Партрэт» С. МРОЖАКА. Познаньскі тэатр Новы.


«Зоркі на ранішнім небе» А. ГАЛІНА. Прэшаўскі тэатр імя Ёнаша Заборскага.


«Цікаванне Гадо» Д. Янчара. Славенскі тэатр-драма. Любляна.


«Згібенне футболу ў горадзе К» К. Горака. Прэшаўскі тэатр імя Ёнаша Заборскага.

# «НЕ БЫЛО НІЯКАЙ ПЭЎНАСЦІ...»

## Рэжысёр вярнуўся з Балгарыі

**Народны артыст БССР Сямён Штэйн па запрашэнні Сафійскага тэатра оперы паставіў на балгарскай сцэне «Заручыны ў манастыры» С. Пракоф'ева, чыё стагоддзе адзначаецца сёлета ва ўсім свеце. Камандзіроўка рэжысёра доўжылася тры месяцы. Вярнуўшыся ў Мінск, ён падзяліўся ўражаннямі з карэспандэнтам «ЛіМа».**

— Прыемна, што прэм'ера «Заручын у манастыры» прайшла паспяхова: спявалі вельмі добрыя артысты, было шмат гасцей, прынамсі, з брытанскага, французскага, савецкага пасольстваў... Гэта было 5 лютага, а 6-га ўжо з'явіліся ў газетах першыя водгукі, што таксама вельмі прыемна. Аднак галоўнае, што помніцца,— сам працэс працы, які стасаваўся са шматлікімі неспадзеўкамі, звязанымі з агульнай сітуацыяй у краіне, у горадзе і, вядома, у тэатры.

Працаваць было складана. Я не ўпершыню ставіў спектакль у Сафійскім тэатры, але цяперашняя сітуацыя ў Балгарыі раз-пораз «падкідала» нечаканасці. Умоўна кажучы, мне давялося прайсці праз тры хвалі. Першая — гэта зняцце ўрада, калі ўся Сафія была ў мітынгах, ніхто не працаваў, усе хадзілі з лозунгамі «Далоў Луканава!» Артыстам, якія хацелі рэпеціраваць, было загадана не працаваць. Калі Луканава знялі, усе страшэнна радаваліся, але ж нічога не змянілася—ні ў краіне, ні ў горадзе.

Другая хваля была тады, як пачалася вайна ў Персідскім заліве. Турцыя побач, дае свае аэрадромы саюзніцкаму войску... І таму, калі ў фае тэатра ды ў холе віселі паказальнікі, дзе — бамбасховішча, а дзе браць процівагазы, рэпеціраваць вясёлую п'есу было не так і лёгка.

Трэцяя хваля, самая адчувальная ў жыцці ўсяго насельніцтва,—гэта неверагоднае павышэнне цэнаў. Білет на транспарт у Сафіі каштаваў раней 6 стацінак, цяпер—70, авіябілет Сафія — Масква раней быў 128 леваў, цяпер — 4 тысячы... Зрэшты, пра гэта можна шмат казаць, але, па-мойму, не варта.

Дык вось, тыя тры хвалі накладаліся на іншыя непрыемныя з'явы, толькі ўжо стабільныя. Па-першае, поўная адсутнасць тавараў. Калі я гэтак кажу, у мяне пытаюцца з недаверам: «Што, горш як у нас?» Я адказваю: «Намнога горш». Так, зусім пустыя магазіны і — пусты базар! Калі я прыехаў у Мінск, дык пачуваў сябе так, быццам трапіў у Швецыю ці ў Нарвегію. У нас жа хоць нешта, хоць па талонах ёсць заўсёды. Там ёсць талоны — і чэргі. Чэргі неверагодныя, у тым ліку і па хлеб. Рэдактар тамтэйшага радыё мне расказваў, што гэткае становішча было пасля вайны. І што нават сабака пачаў разумець, якое жыццё. Купіў ён аднойчы нейкую салату з часнаком, даў сабаку, бо мяса ж няма, а сабака адварочваецца. Тады гаспадар і кажа: «Ты не разумееш, у нас у краіне крызіс, ты мусіш есці тое, што ем я, нічога іншага я табе прапанаваць не магу. Дык разяўляй рот і еш». І сабака пачаў есці...

Па-другое, адсутнасць паліва, што моцна паўплывала на нашу работу: у тэатры вельмі холадна. А многія ж тэатры закрыліся, на многіх магазінах, кіно вісяць шыльды: «Адмяняецца праца ў сувязі з адсутнасцю паліва». Вось і ў нас бывала аркестр сядае, а рукі ў музыкантаў не слухаюцца, і рэпетыцыя адмяняецца. Балет прыйдзе—таксама ледзь-ледзь пасоваецца, і дадому. Толькі з салістаў—гонар ім ды хвала— ні разу ніхто не пайшоў, не адрабіўшы: рэпеціравалі ў паліто, па баках пляцоўкі ставілі вялікія пражэктары...

Па-трэцяе, адсутнасць святла, току ў пэўныя гадзіны. Тады майстэрні, дзе выраблялася афармленне, таксама не маглі працаваць з той інтэнсіўнасцю, якой вымагаў гэты складаны, ёмісты, касцюмны спектакль.

Упершыню за сваё творчае жыццё я не быў упэўнены, ці ж выйдзе ўсё ж спектакль, ці не... Усё гэта працягвалася да апошняй генеральнай рэпетыцыі. І тым больш каштоўны выпуск прэм'еры: «Заручыны ў манастыры»—гэта Іспанія, 18 стагоддзе, гэта адкрытыя сукенкі, гэта загарэлыя твары, гэта сонца, усмешкі, радасць! Дарэчы, галоўнага мастака тэатра, які прыдумаў яркае, дасціпнае афармленне, завуць Радасцін Чумакаў...

Зацікавіў мяне ў Сафіі, апроч тэатра, Клуб аматараў оперы. Наш Клуб сяброў оперы існуе на зусім іншай аснове, і зрабіўшы параўнанне, я яшчэ ніжэй схіляю галаву перад нашымі энтузіясткамі — Аленай Саламахай і Святланай Клімковіч, якія трымаюць на сваіх плячах усю працу і цярпліва ўгаворваюць тэатр, каб ён адгукаўся на прапановы клуба. У Сафіі такі клуб — абсалютна прафесійная справа, да якой не мае дачынення ніхто, апроч тэатра. Пасяджэнні адбываюцца не ў выхадныя для тэатра дні, як у нас, а ў рабочыя, і анансуюцца, як і спектаклі, праз афішу. Там ёсць рабочыя сцэны, там ёсць білецёры, якія сустракаюць і рассаджваюць публіку. Словам, гэта не наша напаўаматарская арганізацыйная аснова.


Н. а. БССР С. ШТЭЙН рэпеціруе з балгарскімі артыстамі Л. ХАДЖЫЕВАЙ і В. ХРЫСТАВЫМ.
Фота Д. ВАСІЛЕВАЙ.

А вось оперная трупа, я б сказаў, нагадвае нашу: ёсць і вельмі таленавітыя салісты, ёсць і менш таленавітыя. Адзінае, бадай, што адрознівае балгарскіх спевакоў у цэлым, — іх, так бы мовіць, павышаная, параўнальна з нашымі, музыкальнасць: чыста музычных праблем у іх не было. Ганаровых званняў, як вядома, там ужо няма—адмянілі абсалютна ўсе і ва ўсіх. Толькі ў балеце ёсць артыстка, руская, ля прозвішча якой пазначаецца званне — «заслужаная артыстка РСФСР».

У сувязі з цяперашняй сітуацыяй можна было б чакаць ад'езду выдатных балгарскіх галасоў за мяжу, але... Там большасць акцёраў амаль не працуе на радзіме стала; як правіла, прыязджаюць на асобныя спектаклі з Аўстрыі, Германіі, Італіі, дзе маюць пастаянную работу. Становішча яўна ненармальнае, таму тэатр збіраецца наладзіць сістэму кантрактаў. А пакуль і мне давялося быць сведкам «знікнення» артыстаў, якія загадзя не папярэджваюць кіраўніцтва тэатра, каб не сурочыць — ці прыйдзе выклік з-за мяжы, ці не. Дырэктар на гэта казаў, што не мае права не адпусціць артыста, які «там» за тыдзень заробіць столькі, колькі ён не заробіць у сябе за 3 гады. Але калі пачаліся сцэнічныя рэпетыцыі нашага спектакля, я прапанаваў дырэктару дапоўніць дагавор. Адпаведна гэтаму дапаўненню артыстам забаранялася выязджаць з Сафіі, а вызваленне ад рэпетыцый даваў толькі бальнічны ліст або ўдзел саліста ў вячэрнім спектаклі. Інакш — кантракт разрываецца з поўнай выплатай рэжысёру абгаворанай сумы.

Яшчэ да гэтага «дапаўнення» было некалькі момантаў, калі я звяртаўся да дырэктара: маўляў, спектакль па ўсім відаць, мы не выпусцім, дык мо я паеду? Ён казаў: не, мы павінны даказаць, што вось у гэткай сітуацыі тэатр працуе і здатны выпускаць святочныя спектаклі, і яшчэ нагадваў: «У вас жа была «Турандот» у халоднай, галоднай Маскве, а «Сільву» вы ігралі ў блакадным Ленінградзе! І мы павінны...» І нягледзячы на мноства цяжкасцей, сама творчая праца была цудоўнаю, тым больш, што Пракоф'ева там любяць, і ў ранейшы час ставілі «Вайну і мір», «Сямёна Катко».

Увогуле адносіны да людзей з Саюза мне падаліся дзіўнымі. Чамусьці лічылася, што мы вінаватыя ў тым, што ў балгараў няма мазуту і да т. п. Калі даведваліся, што я не з Масквы, а з Мінска, глядзелі на мяне неяк цяплей. Але ж карані дружбы паміж нашымі краінамі настолькі глыбокія ў свядомасці нармальных людзей, што перарваць усур'ёз сяброўскія адносіны, думаю, немагчыма.

Да слова, я за ўсе разы знаходжання ў Балгарыі ўпершыню жыў на прыватнай кватэры, сярод нармальных людзей. Гаспадыня—студэнтка, вучыцца ў Германіі, кватэра ёй дасталася паводле завяшчання памёрлай старой, якую некалькі гадоў даглядала дзяўчына. Бацькі яе маюць за горадам гаспадарку. Дык вось, праз 2—3 дні знаёмства мы (разам з маёй жонкай Марыяй Бусько, заўсёдным асістэнтам маіх спектакляў) былі самымі жаданымі людзьмі ў гэтай сям'і. Здавалася, што тыя 3 месяцы мы былі проста ў гасцях, а не ў якіхсьці чужых людзей. Ніводнае свята не абыходзілася без супольнага застолля, без падарункаў. Усім сямействам былі на прэм'еры. А калі мы ад'язджалі, нашы гаспадары плакалі... На фоне пануючай няпэўнасці хвіліны ўзлёту чалавечай шчырасці і дабрыні, як і хвіліны творчага азарэння, давалі надзею, што ўсё з часам павінна наладзіцца—і ў нашых стасунках, і ў нашым жыцці.

Запіс С. БЕРАСЦЕНЬ.

**КАЛЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ**

# «АМАДЭУС»

Афішы з гэтым імем з'явіліся на вуліцах нашай сталіцы. Людзі дасведчаныя ведаюць: так звалі геніяльнага Вольфганга Амадэя Моцарта, памяці якога прысвячаецца VIII фестываль «Мінская вясна». 200-годдзе з дня смерці вялікага кампазітара па рашэнні ЮНЕСКА адзначаецца сёлета ва ўсім свеце. І сімвалічна, што адкрыецца фестываль неўміручым легендарным «Рэквіемам» — знакамітым музычным завяршчаннем Моцарта. Выканаўцы — Акадэмічны сімфанічны аркестр БССР, Дзяржаўны каўнаскі хор і салісты, дырыжор Я. Колабаў. Будзе гэта 2 красавіка.

Амаль увесь месяц у вялікай і камернай залах Беларускай дзяржаўнай філармоніі будзе гучаць і самая папулярная, і менен вядомая шырокай публіцы музыка Моцарта ў выкананні лепшых беларускіх калектываў, маладых ды зусім юных салістаў, цікавых гасцей з Ташкента, Вільнюса, Каўнаса, Ленінграда, Масквы, з Германіі, Канады, Італіі... Будуць і «музычныя дарункі» Моцарту — у тым ліку і творы беларускіх кампазітараў, напісаныя з нагоды фестывалю.

Больш падрабязна пра «Мінскую вясну-91» мы пагаворым у наступных нумарах.

**Н. К.**

# Пад знакам «Пагоні»

(Пачатак на стар. 1).

насці Беларусі — узброены мячом срэбраны вершнік на белым кані.

Сёння суполка аб'ядноўвае больш як 50 мастакоў (жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва), крытыкаў, мастацтвазнаўцаў. «Пагоня» ладзіць творчыя сувязі за межамі рэспублікі. Суполка адкрыта для ўсіх, хто неабыякавы да мінуўшчыны і будучыні Бацькаўшчыны. Пра гэта гаворыць і экспазіцыя першай выставы «Пагоні», што праходзіць зараз у Палацы мастацтваў. Сярод удзельнікаў — і сталыя майстры, вядомыя на Беларусі і за яе межамі, і студэнты тэатральна-мастацкага інстытута, якія робяць толькі першыя крокі ў самастойнай творчасці.

Выстава адкрылася 19 сакавіка: адразу пасля так званага рэферэндуму і напярэдадні вялікага свята Беларусі—25 сакавіка, напярэдадні другога з'езда Беларускага народнага фронту «Адраджэнне». (Многія сябры суполкі, дарэчы, удзельнічалі ў рабоце з'езда, некаторыя абраны ў Сойм БНФ). У гэтым ёсць сімвалічны сэнс. Мастакі «Пагоні» сваёй творчасцю спрыяюць духоўнаму Адраджэнню Беларусі.

Выстава працягвае традыцыю мастацкіх экспазіцый 70—80-ых гадоў, што прысвячаліся выдатным падзеям беларускай гісторыі, слаўным людзям Беларусі—да ўгодкаў Цёткі, Міколы Гусоўскага, Язэпа Драздовіча, Кастуся Каліноўскага, паўстання 1863 года і інш. У мастакоў суполкі ёсць усе падставы лічыць сябе спадкаемцамі культурных набыткаў таго супярэчлівага часу, калі ў нетрах этнаграфізму, у супрацьстаянні таталітарна - рэпрэсіўнай сістэме нараджаўся беларускі гістарызм. Маюць яны і багаты творчы патэнцыял.

Назва выставы—«Адраджэнне». Адраджэнне беларушчыны на Беларусі, чалавечнасці ў чалавеку.

**В. БОГУШ.**



В. МІКІТА. З нізкі паводле кнігі вершаў У. Караткевіча «Мая Іліяда».



С. СВІСТУНОВІЧ. «Ефрасіння Полацкая». Габелен.



К. ХАРАШЭВІЧ. «Помнік мінулага».



С. ЦІМОХАЎ. Партрэт пісьменніка У. Арлова.



У. ХАДАРОВІЧ. «Хлеб».

# «В РУСЛЕ ПОЗИЦИИ...»

## Каментарый да службовай перапіскі

Старшыні Вярхоўнага Савета БССР
М. І. ДЗЕМЯНЦЕЮ

Паважаны Мікалай Іванавіч!

У адпаведнасці з артыкулам 16 «Закона СССР аб рэферэндуме», «дзяржава гарантуе грамадзянам СССР, палітычным партыям, масавым рухам права бесперашкоднай агітацыі за альбо супраць рашэння, якое выносіцца на рэферэндум».

У сувязі з гэтым просім Вас паспрыяць у прадастаўленні групе дэпутатаў ад апазіцыі 40 хвілін эфірнага часу 15 сакавіка г. г. на Беларускім тэлебачанні для выкладання сваіх меркаванняў па пытанню, якое вынесена на рэферэндум. Пры гэтым лічым патрэбным заўважыць, што заяўка на выступленне дэпутатаў ад апазіцыі была перададзена 9.01.1991 старшыні Дзяржтэлерадыё БССР.

Адмаўленне ў прадастаўленні эфіру будзе ўспрынята намі не інакш, як чарговае парушэнне працэдуры правядзення рэферэндуму.

Народныя дэпутаты БССР: Галіна СЯМДЗЯНАВА, Зянон ПАЗЬНЯК, Сяргей НАВУМЧЫК.

11 сакавіка 1991 г.

●

Старшыні Вярхоўнага Савета БССР
т. ДЗЕМЯНЦЕЮ М. І.

Паважаны Мікалай Іванавіч!

Не першы раз у Дзяржтэлерадыё БССР звяртаюцца дэпутаты ад апазіцыі БНФ з патрабаваннямі аб выдзяленні эфірнага часу для выкладання сваіх меркаванняў па розных пытаннях. Так, 9 студзеня З. Пазняк, А. Трусаў, С. Навумчык, В. Голубеў, С. Папкоў выказалі жаданне выступіць менавіта 14-га або 15-га студзеня на працягу 1,5 гадзіны. Адзначу, што не была ўлічана спецыфіка работы тэлебачання з яго існуючым двухтыднёвым планаваннем. На гэта была звернута ўвага народнага дэпутата С. Навумчыка, яму рэкамендавана карыстацца магчымасцю выступаць у «Дэпутацкім канале», які рэгулярна рыхтуе Галоўная рэдакцыя грамадска-палітычных праграм.

6-га лютага ў беларускай праграме радыёстанцыі «Свабода» народны дэпутат С. Навумчык кваліфікаваў дзеянні старшыні Дзяржтэлерадыё БССР не інакш, як наступленне на галоснасць. Відаць, трэба называць рэчы сваімі імёнамі, а такія дзеянні сакратара камісіі па галоснасці Вярхоўнага Савета БССР С. Навумчыка выклікаюць толькі здзіўленне.

Чарговы зварот групы народных дэпутатаў БССР, які мы атрымалі 13 сакавіка, таксама з патрабаваннем выдзеліць 40 хвілін эфірнага часу 15 сакавіка. Прыём—аналагічны першаму, а катэгарычнасць, на наш погляд, не мае ніякіх падстаў: праграма тыдня зацверджана і мяняць яе можна толькі ў выключных выпадках.

Інфармуем Вас, Мікалай Іванавіч, што за кароткі час толькі ў праграмах грамадска-палітычнай рэдакцыі тэлебачання прымалі ўдзел звыш 20 разоў народныя дэпутаты БССР—прадстаўнікі апазіцыі БНФ, у тым ліку і аўтары ўказаных зваротаў. Таму нам не зусім зразумела іх катэгарычнасць і ультыматыўнасць.

З глыбокай павагай
Старшыня Дзяржтэлерадыё БССР А. Р. СТАЛЯРОЎ.

14 сакавіка 1991 г.

...З інфармацыйнай перадачы Беларускага тэлебачання ў дзень рэферэндуму.

— Как голосовали?

— За Союз, конечно! (далей тлумачэнне, што толькі ў адзінстве—наша сіла).

— А вы?

— За Союз—а как же иначе? (доўгая рэпліка пра эканамічныя сувязі, якія непазбежна скасуюцца пры поўным суверэнітэце рэспублік).

—Ну, а вы?

— А мы против (далейшыя словы з рэпартажу выразаныя)...

Я далёкі ад думкі, што аргументацыя «за» і «супраць» пад час плебісцыту павінна прадстаўляцца ў сродках масавай інфармацыі з матэматычна выверанай раўнавагай — але канцэптуальныя палажэнні як аднаго, так і другога боку варта было б выкласці поўнасцю. Прадстаўнікі КПБ магчымасць такую мелі — прыгадаем хоць бы вялізны тэлерэпартаж пра сустрэчу кіраўніцтва трох братніх кампартый Расіі, Украіны і Беларусі, дзеля якога, дарэчы, аператыўна тэлепраграму перакроілі, і вельмі аператыўна... Ну а членам, напрыклад, БНФ ці Сацыял-Дэмакратычнай Грамады давялося задаволіцца эпізадычнымі, пакрэмзанымі рэплікамі.

З друкаваным словам пашанцавала яшчэ меней, чым з эфірам — звярнуўся народны дэпутат БССР В. Голубеў у «Вячэрні Мінск» з просьбай надрукаваць рэпліку ў адказ на змешчаны ў той жа газеце ліст, дзе скажалася ягоная пазіцыя ў дачыненні рэферэндуму, а ў рэдакцыі заўважылі: так, у нас плюралізм, але толькі «в русле позиции горкома»...

...На лісце А. Р. Сталярова—рэзалюцыя Старшыні Вярхоўнага Савета: «Для работы в Комиссии». Мяркую, з гэтымі дакументамі нельга папрацаваць лепей, чым проста іх абнародаваць.

**Сяргей НАВУМЧЫК, народны дэпутат БССР, сакратар Камісіі ВС БССР па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.**

Барыс САЧАНКА

# Баліць, крывавіць...

●

Чарнобыльская бяда, іншыя падзеі адцягнулі ўвагу ад выкрыцця сталіншчыны, таго, што рабілася ў нашай краіне, што перажылі людзі, народ у страшныя 30—40 ды і пазнейшыя гады.

Менш і менш застаецца жывых сведак бяспраўя і рэпрэсій, каму мінулае па-сапраўднаму баліць, крывавіць...

Радзей і радзей тое згадваецца ў друку. І забываецца, забываецца...

Як быццам ужо зроблена ўсё, каб не паўтарылася яно. Як быццам паналежнаму ўшанавана памяць нявінных ахвяр...

Каб жа не позна было, калі зноў адумаемся, спахопімся!..

●

Міфічная, выдуманая, створаная ва ўтульных кабінетах ГПУ арганізацыя «Саюз Вызвалення Беларусі», скарочана «СВБ», за прыналежнасць да якой была арыштавана, а потым і знішчана асноўная частка беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, яе, можна сказаць, касцяк, станавы хрыбет... Як ні імкнуліся, як ні шчыравалі тыя, каму гэта было даручана, даказаць, што існавала такая арганізацыя — нічога з таго не выйшла. Даходзіла да кур'ёзаў. Расказваюць: арыштавалі аднаго навукоўца, прад'явілі яму абвінавачванне, што ён належаў да «СВБ».

— Чаму належаў? — здзівіўся навуковец. — Я і цяпер належу, у мяне нават членскі білет ёсць, ніхто яго ў мяне не адбіраў...

— Білет?

Гэта было новае, гэта быў ужо рэчавы доказ існавання арганізацыі...

— Дзе ён у цябе, той білет? — аж пападымаліся з крэслаў, зацікавіліся следчыя.

— Дома, у шуфлядзе стала ляжыць...

Выклікалі машыну, паехалі на кватэру, дзе жыў навуковец. Вядома, і навукоўца з сабой захапілі. Уварваліся ў кватэру, адчынілі шуфляду стала, знайшлі білет. Толькі на ім было напісана не «Саюз Вызвалення Беларусі», а «Саюз Ваяўнічых Бязбожнікаў»... «СВБ», ды не той...

Ад злосці там жа, на кватэры, далі навукоўцу поўху, і павезлі назад у турму...

●

Калі арыштоўвалі пісьменнікаў, вучоных, арыштоўвалі і іх творы — закончаныя і незакончаныя, часам нават накіды і чарнавікі. Дзе ўсё гэта потым падзелася? Спалена, знішчана ці і сёння ляжыць у архівах, да якіх усё яшчэ няма доступу? Мабыць, не ў аднаго мяне жыве надзея, што калі не ўсё, дык хоць нешта ацалела, дзесьці перахоўваецца і калі-небудзь выплыве з небыцця, будзе надрукавана.

**Пра лёс сваіх забраных пры арышце рукапісаў у свой час хваляваўся Максім Гарэцкі, не-не дый успамінаў у лістах да жонкі Л. У. Гарэцкай: 5 ліпеня 1931 г., Вятка: «...Мне казаў Сікорскі, што ўсе рэчы, рукапісы і кнігі, узятыя пры вобыску, аддадуць назад, калі яны не будуць патрэбныя для справы; казаў, што пашлюць родным павесткі, каб прыйшлі забраць рэчы. Як відаць, табе павесткі не было. Дык я не ведаю, ці варта хадзіць і прасіць, каб аддалі чамадан, партфель, кнігі і хоць тыя сшыткі, што ў партфелі («Хроніка»). Можа, яны ў ГПУ пакуль што спакайней будуць, але шкода, калі загінуць зусім (аднак жа не такая шкода, каб «плакаць» па іх, калі і так досыць смутку)». 18 жніўня 1931 г., Вятка: «Ці аддалі рэчы? Ты дужа пра іх не клапаці, часта не хадзі. Я ведаю, што ў цябе цяпер шмат свайго клопату». 16 кастрычніка 1931 г., Вятка: «Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» (калі іх табе вярнулі з рукапісамі); можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу і па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць)». 9 лютага 1932 г., Вятка: «Калі будзеш мець час, Лёля, вышлі мне заказною бандэроллю мой сшытак «Хронікі», што да 15-га года. Хоць я трохі спарадкую. Не ведаю, ці вярнулі табе мае рукапісы з успамінамі пра дзіцячыя гады, вучэнне ў Крушні і Норках. Усё гэта я пісаў там. І гэта ўсё мне цяпер бы спатрэбілася. Але нічога: калі няма, дык я напішу ізноў. Там яшчэ было: плытагонская тэрміналогія, розныя запісы, «Мяшчанскае каханне», «Джаліта», «Маруся», «Вяселле» і інш». 26 лютага 1932 г.: «...першая гадзіна ночы з 25 на 26. Запісаўся «Хронікаю». Атрымаў бандэроль, надта вам дзякую. Як быццам роднае нешта маё прыйшло да мяне ў хату... Бандэроль была крыху разарвана, але атрымаў, пэўна, усё: тры сшыткі, першы да 1913 г., другі — 1915 г. і трэці — 1916. Хоць апошніх і не прасіў, але добра, што здагадаліся».**

**Выходзіць, усё ж некаторыя рукапісы твораў ГПУ вяртала калі не ўладальнікам, дык іхнім родным, сваякам? А, можа, у лістах М. Гарэцкага размова ідзе пра іншыя яго рукапісы, якія не былі разам з ім забраны пры арышце, бо ў лісце ад 19 сакавіка 1932 г. з той жа Вяткі М. Гарэцкі паведамляе жонцы, Л. У. Гарэцкай: «Напісаў у Менск следавацелю Сікорскаму, каб выслаў, калі можна, мае рукапісы («Джаліта», «Вяселле», «Маруся», «Мяшчанскае каханне», «Дырыжаблі» і інш.), што я напісаў там». А 29 красавіка 1932 г. пісьменнік яшчэ раз, ужо апошні, успамінае свае рукапісы: «Часам находзіць на мяне вялікая злосць і крыўда, што фактычна адкінулі мяне ад літаратурнае работы, як апошнюю непатрэбшчыну. Бо ці ж я магу ў сваіх цяперашніх умовах пісаць? А няўжо ж я так-такі нічога не варты, нават з самага левага пункту погляду? І вось надоечы напісаў у Менск начальніку ГПУ, каб вярнулі мне мае затрыманыя рукапісы. Але хто там пачуе мой голас?..»**

І ўсё. Так і незразумела, што сталася з тымі рукапіснымі творамі М. Гарэцкага, якія ўзяты былі пры яго арышце і напісаны былі «там», у турме?..

●

Яшчэ і яшчэ гартаю, чытаю часопісы тых жахлівых сталінскіх часоў... Вось «Маладняк», адзінаццаты і дванаццаты нумары за 1930 год. Вызвалены ад пасады дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і ад рэдактара часопіса «Полымя» былы старшыня першага ўрада БССР З. Жылуновіч (Цішка Гартны), няйнакш, вырашыў ратавацца — з абвінавачанага паспрабаваў стаць абвінаваўцам — змясціў артыкул «Нацыянал-дэмакраты за «працай», у якім не пашкадаваў чорных фарбаў, каб абліць брудам, абвінаваціць ва ўсіх смяротных грахах многіх выдатных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху, навукі і культуры — Я. Лёсіка, А. Смоліча, А. Гаруна, А. Цвікевіча, А. Луцкевіча, А. Бурбіса, Я. Пушчу, Я. Адамовіча, У. Ігнатоўскага, С. Некрашэвіча і нават самога сябе... Але рэдакцыі «Маладняка» здалося гэтага мала і яна ў канцы артыкула зрабіла прыпіску «Ад рэдакцыі». У ёй гаварылася літаральна вось што: «Аўтарам замала адведзена месца крытыцы сваіх памылак, як у мастацкай творчасці і крытыцы, так і ў публіцыстыцы. Рэдакцыя спадзяецца, што ў далейшым працягу свайго артыкула т. З. Жылуновіч дасць разгорнутую крытыку гэтым памылкам, асвятліць болей сваю літаратурна-мастацкую і публіцыстычную чыннасць перыяду часопісаў «Адраджэнне», «Вольны сцяг» і інш. і свае тагачасныя адносіны да іх, як да матэрыялаў, што друкаваліся там».

Словам, пайшоў па воўну, а яго ўзялі ды самога пастрыглі...

Пісалася ўжо: творчая спадчына аднаго з самых выдатных паэтаў дваццатых гадоў, ахвяры сталіншчыны Уладзіміра Дубоўкі па-належнаму не вывучана, не сабрана і не выдадзена. Многія яго творы ляжаць у рукапісах. Сёе-тое друкавалася за мяжою. Вось тры вершы, якія змясціў без усякіх каментарыяў і тлумачэнняў адзін з блізкіх сяброў Уладзіміра Дубоўкі «ўзвышэнец» Антон Адамовіч:

## З-за кратаў

**...А вясна ідзе на Беларусі,**
**Апранае ў страі прасторы,**
**Прамяністасць жменяю церусіць**
**І з лясамі ветліва гаворыць.**

**А вясна спаткае вас прыхільна,**
**Пушча-бор цымбальна прывітае.**
**Забруіцца ў сінім небасхіле**
**Песня жаўранкава залатая.**

**Праз дарогу шмат пяройдзе рэчак,**
**І Дняпро з Бярэзінай праскочыць.**
**З ласкай ціхай хвалі ўслед зашэпчуць,**
**З ласкай ціхай лягуць на пясочак...**

**Я на ростань не скажу нічога,**
**Я вясну за кратамі спаткаю...**
**Усміхнуся вершам на дарогу:**
**Доля нашая такая...**

(«Сакавік», № 1, 1947 г.)

●

**...Забыўся ты. Схіліўся на далоні...**
**Язда... шляхі — і водбліскі пагоні...**
**Забыўся ты — галубіш свет шырокі,**
**Не чуеш варты няспынянай крокі...**
**Забыўся ты... Табе ўсё воля сніцца...**
**Мой брат! Ці ж свет увесь — вязніца!**

1931 г.

## Здраднікам

**Вы, што звыклі поўзаць ракам**
**і на задніх танчыць лапках**
**перад кажным небаракам,**
**што трымае з маслам «папку»,**

**вы, прасякнутыя брудам**
**ад пяты да самай шыі,**
**звыклі біць тых, што пад спудам,**
**ліць на бліжняга памыі, —**

**дзе ваш сорам чалавечы,**
**дзе павага да людзіны!**
**Як ад вас нам асцярэгчы**
**гонар нашае краіны!**

**Месца ваша ў ніцалоззі,**
**ганьба вам наканавана,**
**бо пры вашай дапамозе**
**Бацькаўшчына ўскрыжавана...**

1931 г.

(«Сакавік», № 1/22, 1948 г.)

●

Яшчэ адзін «узвышэнец» — Язэп Пушча. Упершыню яго я ўбачыў у пачатку шасцідзесятых гадоў у рэдакцыі часопіса «Полымя», дзе тады працаваў у аддзеле прозы. Ён неяк надта ж асцярожна адчыніў дзверы таго пакоя, дзе я сядзеў, і сказаў, як бы запінаючыся:

— Я — Язэп Пушча, хацеў бы спаткацца з кім-небудзь з аддзела паэзіі...

Я з цікавасцю разглядаў невысокага, нечым вельмі падобнага на школьнага настаўніка немаладога ўжо чалавека. Няўжо гэта той самы амаль легендарны паэт Язэп Пушча, вершы якога, а найперш, вядома, «Лісты да сабакі», я чытаў у падшыўках «Узвышша» і пра якога так шмат пісалі ва ўсіх беларускіх газетах і часопісах у дваццатыя-трыццатыя гады?!

Якраз у аддзел прозы зайшоў Васіль Хомчанка і між ім і Язэпам Пушчам адбылася нібыта нямая сцэна: і Васіль Хомчанка і Язэп Пушча застылі, глядзелі адзін на аднаго як бы з падкусам.

Не помню, што было далей, але калі Язэп Пушча пакінуў наш пакой, Васіль Хомчанка расказаў:

**— Я сустрэўся з Язэпам Пушчам у пасляваенныя гады ў Чаадаеве. Ён працаваў там дырэктарам школы, ну а я служыў ва Уладзімірскай вобласці ў ваеннай пракуратуры. Хтосьці мне сказаў, што дырэктар Чаадаеўскай школы Плашчынскі піша вершы. Вось я і заехаў да яго, каб пазнаёміцца. «Плащинский», — назваўся дырэктар і падаў мне руку, калі я зайшоў у яго хату. Пасадзіў мяне да стала, побач стаяла этажэрка з кнігамі. Убачыўшы том «Литературной энциклопедии», што выходзіла да вайны, я разгарнуў яго. І трэба ж — якраз на тым месцы, дзе было прозвішча Язэп Пушча (Плащинский). Я і спытаў: «А вы ніякіх адносін да беларускага паэта Язэпа Пушчы не маеце?» — «Нет, не имею», — падкрэслена паруску адказаў дырэктар школы і з насцярогаю паглядзеў на мяне. А я ж у вайсковай форме быў, маёр юстыцыі...**

Бачыў я Язэпа Пушчу і потым некалькі разоў. Быў у яго я і дома. Літаральна за які тыдзень да смерці. Мы, група пісьменнікаў — членаў праўлення Літфонду, тады прыехалі, каб паглядзець умовы, у якіх жыў паэт. Два невялічкія пакойчыкі на дзве сям'і (якраз яго дачка выйшла замуж). У хаце — чысценька, акуратненька. Сам Язэп Пушча — бледны, хворы, ляжаў на ложку.

— Дапамажыце, калі ласка, — прасіў ён нас, членаў праўлення Літфонду. — Дужа цяжка стала жыць.

Не паспелі яму дапамагчы — памёр. І творы Язэпа Пушчы як трэба дасюль не выдалі.

Збіраўся іх выдаць родны яго брат Ізідор, які пасля вайны жыў у ЗША, але і ён не паспеў гэта зрабіць...

●

Тыя, хто планаваў масавыя рэпрэсіі, праводзіў іх у жыццё, не думалі, што пра жудасныя злачынствы сталіншчыны будуць хоць калі-небудзь ведаць. Рабілася ж усё, каб схаваць, замесці за сабою сляды, нідзе не засталося ніякага кампрамату. І раптам... Знайшліся магілы... Знайшліся жывыя і нежывыя сведкі — людзі, лісты, надпісы на сценах муроў, вершы, паэмы... І нават песні...

Адна такая песня трапіла нядаўна і да мяне. Беларуская, напісаная дзесьці ў падвалах турмы ці на этапах. Падаю яе цалкам, можа, натхніць каго заняцца зборам і вывучэннем лагернай і турэмнай творчасці.

**Забраны ў няволю з Забранага краю,**
**Узяты за краты з спустошаных хат...**
**Для нас пачалася часіна ліхая,**
**Мой родны, мой бедны, пакрыўджаны брат...**

**Жыве наш народ, як гарох пры дарозе,**
**Прасвету не бачыць у гэтым жыцці.**
**Учора на працы, сягоння ў астрозе,**
**А заўтра — на працу ў выгнанне ісці...**

**Прагоняць праз пусткі, праз тундры, на Мурман,**
**Каб з нашых касцей загаціць тую гаць,**
**Прагоняць этапам праз царскія турмы,**
**Якія хацелі з зямлёю зраўнаць...**

**Зраўнаць не зраўналі, а ў зямлю ўвагналі,**
**Загналі працоўных у цёмны падвал.**
**Жаратак чужымі зграбалі рукамі,**
**Падзякі ні слова ніхто не сказаў...**

**Не хопіць астрогаў для нашага брата —**
**Ударным парадкам пачнуць мураваць.**
**Лягчэй, знаць, паставіць жалезныя краты,**
**Чым шчасце для беднага люду прыдбаць...**

**Не плачце вы, сёстры, не плачце вы, маткі,**
**Не плачце вы, любыя сэрцу, па нас.**
**Такія ўжо, знаць, на свеце парадкі,**
**Такі ўжо бязглузды, пакручаны час...**

**Няхай лепш сумуюць прадажныя душы,**
**Адплаты чакаюць за здраду сваю,**
**Няхай іх сумленне, тых юдаў, падушыць,**
**Загоніць жывымі ў сырую зямлю.**

**Звярыная злосць не заслоніць нам неба**
**І нашу зямельку ўсю не глыне.**
**Мы знаем — змагацца за волю нам трэба,**
**Мы знаем — змагання наш край не міне.**

**Ніколі й нідзе Беларусь не загіне,**
**Ніколі й нідзе Беларусь не памрэ:**
**Ні ў турмах, ні ў концах, ні ў клятых краінах,**
**Ні ў дзікім прыгоне, ні ў страшным ярме.**

**Сячэце, сячэце высокія хвоі,**
**Пілуйце вы дошкі адна ў адну.**
**Збянтэжаны вораг не знае спакою —**
**Сабе ўжо самому складае труну.**

●

Тыя, каго арыштавалі за прыналежнасць да «Саюза Вызвалення Беларусі», якога, як цяпер ужо даказана, не існавала, быццам нават выйгралі. Ім далі па некалькі гадоў высылкі, потым у іх было вольнае пасяленне за межамі Беларусі.

Найбольш цяжкія выпрабаванні выпалі на долю тых, хто трапляў у рукі сталінскіх катаў у трыццаць шостым — трыццаць сёмым гадах — ім давалі па дзесяць-дваццаць пяць гадоў папраўча-працоўных лагераў, ці наогул расстрэльвалі...

З першага патоку арыштаваных выжылі, дачакаліся волі Уладзімір Дубоўка, Язэп Пушча, Міхайла Грамыка, Нічыпар Чарнушэвіч, хоць некаторыя з іх паўторна арыштоўваліся, атрымлівалі новыя тэрміны.

Сёй-той выжыў і з арыштаваных у пазнейшыя гады...

І тут, мабыць, галоўную ролю іграў не час, калі каго арыштоўвалі, а нешта іншае. Што?

●

Перажытае нашым народам у часы сталіншчыны знайшло сваё праўдзівае адлюстраванне ў многіх творах беларускай літаратуры. Цяпер да тых твораў, што напісаны і выдадзены ў Савецкай Беларусі, далучаюцца тыя, што былі напісаны і выдадзены за яе межамі. Апошніх нямала — гэта перш за ўсё раман «Раман Корзюк» і многія вершы М. Сяднёва, вялікая эпічная паэма «Васіль Каліна» і вершы У. Клішэвіча, вершы і паэмы М. Кавыля, У. Дудзіцкага, кнігі В. Адважнага «Кітай — Сібір — Масква», А. Калубовіча «На крыжовай дарозе», успаміны Я. Кіпеля, І. Рытар, М. Шчаглова і інш. Таленавіта пісаў пра сталінскія турмы і лагеры Тодар Лебяда, на жаль, амаль невядомы сёння драматург і паэт:

